*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 5 (269)

31 студзеня 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў

# ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ З ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ КАЗАХСТАН НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ.** Кіраўнікамі дзвюх дзяржаў быў падпісаны вялікі рамачны дакумент — Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве, а таксама Дагавор аб прававым статусе грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Казахстан, і грамадзян Рэспублікі Казахстан, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пагадненні аб спрошчаным парадку атрымання грамадзянства, аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, навукі і адукацыі і шэраг іншых дакументаў.

○ ***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СЯМЁН ШАРЭЦКІ Ў ЧАС ГУТАРКІ З КАРЭСПАНДЭНТАМІ, ГАВОРАЧЫ ПРА АБАРОНУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ, СКАЗАЎ:*** *«Нам не трэба абараняць, хто на яе нападае? Трэба стварыць умовы для таго, каб людзі ёй авалодалі. Я магу сказаць толькі тое, што я лічу двухмоўе не падменай адной мовы другой, а абавязковасцю ведання і адной, і другой мовы... Я вяду пасяджэнні Вярхоўнага Савета па-руску, хоць добра ведаю беларускую мову, толькі па адной простай прычыне: большасць залы пакуль што размаўляе на рускай мове... А калі будуць разбірацца пытанні культуры — я абавязкова буду весці сесію на беларускай мове. Я буду старацца ўсё рабіць для таго, каб грамадства добра ведала сваю родную мову і карысталася ёй. Але гэта трэба пачынаць са школы, каб усе нашы дзеці, незалежна ад таго, у якую школу яны ходзяць, добра ведалі беларускую як карэнную мову свайго народа». Сямён Георгіевіч, не чакайце дня, калі Вярхоўны Савет будзе разглядаць пытанні па культуры, каб вам загаварыць па-беларуску, а гаварыце ўжо сёння, бо ад вас шмат у чым залежыць далейшы лёс мовы народа, які выбраў вас дэпутатам.*

○ **НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА АБРАНЫ СТАРШЫНІ ПАСТАЯННЫХ ПАРЛАМЕНЦКІХ КАМІСІЙ.** Атрымалі пасады 6 прадстаўнікоў фракцыі «Згода», 4 прадстаўнікі фракцыі камуністаў, 2 — аграрыяў, 2 — сацыял-дэмакратаў і адзін — ад фракцыі «Грамадзянскае дзеянне». Старшынём Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры быў абраны прарэктар Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта па навуковай рабоце Віктар Плецюхоў. Гаворачы пра двухмоўе, старшыня Камісіі сказаў, што, на яго думку, кожны грамадзянін краіны мае права выбару мовы навучання. Аднак В.Плецюхоў падкрэсліў, што сёння беларускай мове патрэбна дзяржаўная падтрымка. На жаль, сам старшыня Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры пакуль што не размаўляе па-беларуску. Праўда, адзін з дэпутатаў прапанаваў сваю дапамогу В.Плецюхову ў авалоданні ёю. Хочацца спадзявацца, што прарэктар Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта будзе здольным вучнем.

○ ***НАМЕСНІК ДЫРЭКТАРА ПАЛІТЫЧНАГА ДЭПАРТАМЕНТА САВЕТА ЕЎРОПЫ ЖАН-ЛУІ ЛАРАН СТАЎ ПЕРШЫМ ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫМ ЗАМЕЖНЫМ ПРАДСТАЎНІКОМ,*** *якога прыняў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі. У час гутаркі Жан-Луі Ларан паведаміў, што нядаўнія выбары ў Вярхоўны Савет, паводле водгукаў міжнародных назіральнікаў, прайшлі ў нашай краіне дэмакратычна, і, такім чынам, першая ўмова ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы выканана.*

***ЗАКРЫЦЦЁ «ГОЛАСУ ДУШЫ» — ПАЛІТЫЧНАЯ АКЦЫЯ?*** *Стар. 2.*

***ГУТАРКА З РЭДАКТАРАМ «СВАБОДЫ»*** *Стар. 3.*

*Слуцкаму збройнаму чыну — 75*

## Гонар і крыж Беларусі

***16 студзеня 1996 года ў памяшканні сталічнага тэатра «Вольная сцэна» адбылася заключная імпрэза з праграмы шанавання памяці слуцкіх паўстанцаў.***

Трэба адзначыць, што ў сённяшніх палітычных умовах Нацыянальны камітэт па святкаванні 75-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну зрабіў амаль немагчымае, каб гэтая дата не засталася незаўважанай шырокай грамадскасцю.

Заключная імпрэза складалася з дзвюх частак: цырымоніі закрыцця мастацкай выставы, прысвечанай памяці «стральцоў войска Беларускае Народнае Рэспублікі», і канцэрта-мітынгу, дакладней, сцэнічнай дзеі, калі канцэртныя нумары артыстаў перамяжаліся з кароткімі выступамі прафесійных прамоўцаў.

*(Заканчэнне на с. 3.)*

***Наш каляндар***

## Даты і падзеі ў лютым

**1 лютага** — 185 гадоў з дня нараджэння Р.С.Зянькевіча (1811—1868), беларускага фалькларыста, этнографа, педагога.

**2 лютага** — 90 гадоў з дня нараджэння З.Я.Бірылы (1906—1993), беларускага паэта.

**4 лютага** — 250 гадоў з дня нараджэння Андрэя Тадэвуша Касцюшкі (1746—1817), палітычнага і ваеннага дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г., удзельніка вайны за незалежнасць ЗША (1776—1783). (Матэрыялы пра А.Т.Касцюшку чытайце ў наступных нумарах.)

**7 лютага** — 85 гадоў з дня нараджэння У.А.Ляўданскага (1911—1973), беларускага пісьменніка.

**8 лютага** — 75 гадоў з дня нараджэння І.П.Мележа (1921—1976), народнага пісьменніка БССР.



1746 — 1817

**Нацыянальны Арганізацыйны Камітэт**
па сьвяткаваньні ў Беларусі
250-х угодкаў
**Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касьцюшкі**

Разьліковы рахунак: 3015211110018 у Ленінскім аддзяленьні АКБ Белбізнесбанка, код 763 г. Менска
Тэлефоны: 32-54-46, 68-14-35.
220005 Менск, вул. Варвашэні, 8.

### Запрашае

У Марачоўшчыну пад Косавам Івацэвіцкага раёна, дзе 4 лютага сёлета а 13.30 гадзіне (14.00) адбудзецца ўскладанне вянкоў і кветак да месца, дзе стаяў дом, у якім нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Касьцюшка.

У Нацыянальны Музей гісторыі і культуры Беларусі (г. Менск), дзе 6 лютага а 13.00 гадзіне адбудзецца адкрыццё выставы ды імпрэза «Наш Касьцюшка».

У Нацыянальную бібліятэку Рэспублікі Беларусь 9 лютага, дзе а 16 гадзіне адбудзецца адкрыццё выставы кніг ды іншых выданняў «Андрэй Тадэвуш Касьцюшка — 250 гадоў».

***Маладая Беларусь***

***Марына ЛІСТРАЦЕНКА***

* * *

Ты — Беларус! Дык заставайся ім навекі,
Ты годнасці сваёй ніколі не губляй.
Застанься назаўсёды Чалавекам
І чысцінёй душы Радзіму адраджай.
Ты — чалавек, чыю Айчыну
Тапталі, ганьбілі мо сотню раз...
Дык будзь для Беларусі верным сынам,
Настаў ёй новай, чыстай выйсці час.
Радзімы ты ніколі не цурайся —
Яна твая была, заўсёды будзе, ёсць.
І з ёю разам назаўсёды заставайся —
Будуй жыцця краіны прыгажосць.

*Менск. Педагагічны каледж.*

***Рэха***

## «Роднае слова» павінна жыць!

Нас, прыхільнікаў беларускага нацыянальнага і духоўнага адраджэння, вельмі ўсхваляваў артыкул Ул. Содаля («НС» № 52, 95), у якім паведамляецца пра тое, што не будзе выходзіць тэлечасопіс «Роднае слова». Лічым гэты факт сама менш дзіўным і недарэчным, зняважлівым для беларусаў.

Тэлечасопіс «Роднае слова» за гады свайго жыцця заслужыў павагу тысяч свядомых беларусаў. Гэта ці не адзінае «акно», праз якое можна было ўбачыць, што робіцца з нашай нацыянальнай святыняй — мовай. Гэта была магчымасць надзейнай лінгвістычнай самаадукацыі, урэшце. І вось усё бязлітасна знішчаецца.

Парушаюцца нашы правы грамадзянаў і тэлегледачоў. Таму мы просім і нават патрабуем аднавіць тэлечасопіс «Роднае слова».

**М.ВАЛЬКО, Я.ШЫШКАНАВА, Б.СКАНЕЧНЫ і іншыя.**
г.Нясвіж.



Ельцаўскі гурток ТБШ Ваўкавыскага павета. (Матэрыялы чытайце на с.4.)

Жыццё Таварыства

# Святое

***«Для мяне мова вечна святая», — кажа настаўніца Ніна Шушкевіч***

*Суполка гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ў 7-й сярэдняй школе Слуцка — адна з найбольш актыўных і сталых сярод навучальных устаноў горада. Узначальвае яе настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ніна Серафімаўна Шушкевіч. Нядаўна па яе ініцыятыве і пры ўдзеле ўсяго настаўніцкага калектыву тут прайшоў месячнік беларускай мовы пад назвай «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». З Н.С.Шушкевіч гутарыць наш пазаштатны карэспандэнт.*

**— Ніна Серафімаўна, ваша школа, наколькі мне вядома, належыць да ліку чатырох з дваццаці школ горада, у якіх настаўніцкія калектывы не дазволілі пераводзіць на расійскую мову навучання ніводзін з пачатковых класаў, дзе ўжо выкладанне ўрокаў вялося на роднай мове. З чым і віншую вас. Высілкі суполкі ў гэтай справе адыгралі пэўную ролю?**

— Безумоўна, перш за ўсё заслуга настаўнікаў, якія выкладаюць беларускую мову і літаратуру. Адыграла пэўную ролю і цвёрдая, прынцыповая пазіцыя, якую заняў дырэктар Аляксандр Казючыц. Бацькоў, што настойвалі на перавод таго ці іншага класа на расійскамоўнае навучанне, ён здолеў пераканаць у памылковасці іх намеру. Абышлося, як кажуць, без канфліктаў. Класы беларускамоўныя адсталі.

**— Колькі ў суполцы чалавек і хто яны?**

— У першы год, калі яе стварылі, было чалавек дваццаць, выключна настаўнікаў. Пазней некаторыя з іх адышлі ў бок. Зараз у суполцы дзесяць настаўнікаў і чалавек сорак вучняў старэйшых класаў. Гэта ўжо ўплывовая арганізацыя, здольная вырашаць канкрэтныя задачы па адраджэнні роднай мовы, павышэнні яе прэстыжнасці ў школе і па-за яе сценамі.

**— Прайшоўшы месячнік быў першай, пасля сумна вядомага рэферэндуму, шырокамаштабнай, так бы мовіць, падзеяй па прывіцці дзецям любові і павагі да роднага слова, ці нешта на рахунку суполкі ўжо было?**

— Яшчэ ў 1991 годзе, калі ў нашым грамадстве пачалі адраджацца карані дзяржаўнай і нацыянальнай свядомасці, мы правялі месячнік, прысвечаны творчасці класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, нашага духоўнага прарока, хто крывёю сэрца даваў запавет у сваіх вершах нашчадкам — любіць і шанаваць сваю мову. То былі першыя ўрокі беларускасці пасля доўгай і зацяжной хваробы манкуртызму, што насаджаўся ў краіне дзесяцігоддзямі.

**— З чаго пачынаўся месячнік?**

— З бліц-турніру «Не пакідайце мовы сваёй беларускай». Ён праводзіўся з трэцімі і чацвёртымі класамі, вялі яго настаўніца гісторыі Алена Аржынская і настаўніца пачатковых класаў Ліда Масюк. Дзеці многія прыйшлі ў нацыянальной вопратцы. На працягу двух дзён яны ўдзельнічалі ў конкурсах на складанне беларускіх казак, на веданне народных песень пад дэвізам «Адгадай мелодыю», на ўменне самім скласці і правесці гульню ў традыцыях народных абрадаў. Пераможцай выйшла каманда «Шустраняты» з трэцяга «Б» класа Ліды Масюк.

**— Вядома, што за дзвесце гадоў расійскі і польскі шавінізм, затым бальшавізм добра папрацавалі, каб вынішчыць у беларусаў нацыянальную годнасць, духоўнасць, аб чым сведчыць зніякненне цікавасці да беларускай кнігі ў шырокіх масах, у тым ліку і сярод моладзі. Вы такое ўлічвалі пры падрыхтоўцы месячніка?**

— Мы гэта разумелі і правялі сустрэчу чытальнікаў 7-11 класаў пад дэвізам «Зямля бацькоў, зямля святая». Адкрывала яе вершам Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» вучаніца 9-га класа Іра Коршун. Яна і вяла сустрэчу. Вучні паказалі добрае веданне паэзіі Ніла Гілевіча, Максіма Танка, Цёткі, Сяргея Законнікава і іншых аўтараў, у якіх ёсць творы аб роднай мове. Пераможцамі конкурсу выйшлі вучні Іра Коршун, Вольга Каржанец, Жэня Сакалоўская.

**— Хто яшчэ з настаўнікаў праявіў найбольшую актыўнасць, уменне знаходзіць духоўны кантакт з дзецьмі менавіта па тэме беларускасці?**

*(Заканчэнне на с.6.)*

Але! Але!

# Закрыццё «Голасу Душы» — палітычная акцыя?

30 снежня 1995 г. была раптоўна знята з эфіру духоўная праграма «Голас Душы». Перадача праіснавала на I праграме Беларускага радыё больш за два з паловай гады і мела сотні тысяч сталых слухачоў. Цяпер яны пазбаўлены магчымасці па суботах і нядзелях слухаць любімую перадачу. Абураныя людзі пішуць лісты, збіраюць подпісы і самым розным чынам пратэстуюць супраць гэтай абсурднай забароны. Вось тыповыя думкі радыёслухачоў:

Дабрыдзень, паважаны айцу Уладзіслаў!

Дазвольце мне ад імя нашай сям'і і сем'яў нашых дзяцей (Юрыя, Алены, Ірыны) да зямлі пакланіцца Вам за тое, што Вы ўпершыню далі нам магчымасць пачуць Слова Божае на роднай мове.

Раптам, раніцой 30 снежня, я пачула, што «Голас Душы» закрываецца. Я толькі сказала: «Божухна літасцівы, змілуйся» і загаласіла. Напісала кіраўніку Беларускага радыё просьбу аднавіць «Голас Душы».

Трошкі пра сябе. Традыцыйна наша сям'я адносіцца да праваслаўнай канфесіі, але ж праваслаўная царква не звяртаецца да нас са Словам Божым на роднай мове, таму мы з асаблівым пачуццём слухалі Вашы пропаведзі на роднай мове, пакуль раніца 30 снежня не прынесла чорную вестку— чарнейшую за чорную ноч — аб закрыцці «Голасу Душы». Яшчэ раз нізка Вам кланяемся і спадзяёмся пачуць.

**Вашы Судзілоўскія: Георгій, Людміла, Юрый, Ларыса і дзеці.**
**Літашэнкі: Алег, Ірына і дзеці.**
**Ярмаковічы: Віктар, Алена і дзеці.**

30.12.95 г.

Напісала гэты ліст 30 снежня, толькі занесці на пошту не паспела, а 31 ізноў пачула Ваш голас. Падумалася: «А можа штосьці памянялася?» Але 5 дзён новага года прынеслі толькі горшыя расчараванні, і я ўпэўнілася ў тым, што нічога ў лепшы бок не змянілася. І ўсё ж такі з Божай дапамогай спадзяёмся на лепшае.

Да пабачэння.

5.01.96 г. **Людміла Судзілоўская.**

— Перадача «Голас Душы», калі яна была забаронена, то яна паўплывала, у гэтым я ўпэўнена, не толькі на мяне. Я была сведкам таго, як людзі былі вельмі ўсхваляваны і абураны. Моладзь і людзі рознага ўзросту. Потым прыходзілі ў касцёл, я з многімі сустракалася, бачыла, як прыязджалі з вёсак, цэлыя гарады падпісваліся. Вось я ведаю, што падпісаўся амаль увесь горад Маладзечна за працяг перадачы. Прыходзілі, распавядалі розныя выпадкі пра розных людзей кс.Уладзіславу. Самой мне нават цяжка ўявіць, што не будзе гэтай праграмы. Кожны раз чакаеш яе і адчуваеш, калі яе няма зараз, якая гэта вялікая страта. Гэта як самая неабходная ежа для таго, каб чалавек жыў. Так і гэта перадача духоўнасці, якая давала надзею людзям, веру ў Бога, — гэта найважнейшае і гэта злачынна забараніць. Наколькі я чула, казалі, што перадача мела нейкі малы рэйтынг, але я бачу, што яна мае найвышэйшы рэйтынг. Часта забароны бываюць вынікам памылкі. Як паказвае жыццё, нешта забараняецца, а потым, дзякаваць Богу, выпраўляецца і аднаўляецца. І я спадзяюся, што гэта адна з такіх памылак. Хто нічога не робіць, той і не памыляецца. Людзі будуць толькі рады і будуць маліцца за тых, хто верне гэтую перадачу. Таму што яна — гэта і родная мова, і духоўныя веды, і, у першую чаргу, магчымасць людзям усім разам у наш цяжкі час маліцца, яднаючыся душой. Гэта перадача асвячала нашае радыё. Тыя людзі, якія там працуюць, павінны падумаць аб тым, што Бог будзе спрыяць і дапамагаць ім, калі яны дадуць людзям магчымасць чуць гэтую перадачу. Я ў гэтым упэўнена.

**Галіна Дзягілева, актрыса, мастацкі кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зніч» пры Белдзяржфілармоніі.**

Мяне настолькі ўразіла тое, што закрылі такую перадачу, нават немагчыма было адразу паверыць. Бо гэта была першая такая перадача і новая, практычна такіх перадач не было. І яна захапіла сваю аўдыторыю не толькі сярод вернікаў каталіцкай канфесіі, але і сярод праваслаўных і іншых.

Хачу яшчэ дадаць, што мае сябры па арганізацыі «Таварыства навагародцаў свету» вельмі абураны гэтым здарэннем і выказваюць сваю падтрымку супрацоўнікам праграмы.

**Гутар Леў Вячаслававіч, дырэктар малога прадпрыемства.**

А зараз публікуем гутарку нашага карэспандэнта з вядучым «Голасу Душы», пробашчам менскага храма святых Сымона і Алены, ксяндзом, магістрам Уладзіславам Завальнюком.

## Айцец Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК: несці духоўную падтрымку ўсім людзям незалежна ад веравызнання

**— Айцец Уладзіслаў, апошнім часам з эфіру знікла радыёперадача «Голас Душы», што здарылася, у чым справа?**

— Пахвалёны Езус Хрыстус! Няхай Божае Блаславенне на ўвесь гэты год будзе для ўсіх працаўнікоў прэсы — вас, паважаныя, добрыя людзі. Гэтая перадача «Голас Душы» ўзнікла не проста так, а праз вялікія мучэнні, чаканні, мы маліліся і хадайнічалі добрыя два гады, пакуль атрымалі дазвол, і лунае «Голас Душы» амаль два з паловай гады, таму што мы былі зарэгістраваны 11 верасня 1993 года. «Голас Душы» меў і мае намер несці духоўную падтрымку ўсім людзям незалежна ад канфесіі і веравызнання. Я стараўся прытрымлівацца незалежнай пазіцыі, пэўна кананічныя малітвы павінны выконвацца, як у касцёле, але павучанні, зварот да людзей, Слова Божае, спевы — усё гэта накіравана на адраджэнне душы, для духоўнага ўзрастання людзей і каб чалавек адчуў сваё заданне ў гэтым жыцці. Шкада, што цяпер я не маю такой магчымасці. Хто закрыў праграму, дакладна ніхто не можа сказаць, адзін начальнік спасылаецца на другога, і так мы ўжо каторы тыдзень шукаем гэтыя ніці, — хто бы мог канкрэтна адказаць на гэтае пытанне. Я размаўляў са старшынём тэлерадыёкампаніі Рыгорам Кісялём і таксама з Уладзімірам Ядранцавым — дырэктарам радыё, і лічу, што з Божай дапамогай дачакаемся вынікаў, бо ні адзін з іх не сказаў, што гэта ўжо апошняе і беспаваротнае рашэнне, але ж тыдні ідуць і людзі чакаюць гэтай перадачы. Я казаў людзям — памятайце, мы самі павінны нагадваць аб сабе, пісаць у Вярхоўны Савет, нават на імя Прэзідэнта, таму што не заўсёды ён можа ведаць крокі кожнага міністра, і маю надзею, што Прэзідэнт дапаможа. Спадзяюся на яго інтэлігентнасць і культуру. Думаю, ён з разуменнем аднясецца да нашай просьбы.

Гэта было б добрым жэстам з яго боку, бо 7 студзеня падчас выступлення ў праваслаўным Катэдральным Саборы, Прэзідэнт падкрэсліў, што ў нашай краіне няма міжканфесійнага супрацьстаяння.

**— Вы сказалі, радыёперадача «Голас Душы» была звернута да кожнага чалавека незалежна ад веравызнання. А ці меліся на ўвазе сацыяльныя, грамадскія патрэбы?**

— «Голас Душы» — вельмі неабходная праграма для ўсяго нашага грамадства. А ў першую чаргу для людзей, якія жывуць у аддаленых вёсках, дамах састарэлых, інтэрнатах, знаходзяцца ў турмах, а таксама хворых, прыкаваных да ложка — таму што гэта перадача духоўная. Асабліва баліць у мяне душа з-за таго, што многія з гэтых людзей можа ніколі і не вернуцца ў нашае жыццё, а так і адыдуць у вечнасць. І не даць ім гэтую духоўную скарынку хлеба, хлеба малітвы, я лічу сапраўдным злачынствам. Часта я прыводжу людзям такі прыклад. Грэх увайшоў у свет праз упадак нашых першых бацькоў Адама і Евы. Людзі пытаюць, чаму мы павінны цярпець за грахі нашых продкаў, а тут я кажу, як адзін з кіраўнікоў заявіў, што ён увогуле не жадае, каб перадача «Голас Душы» існавала. А колькі людзей павінны цярпець з-за гэтага чыноўніка! Так што задумайцеся, людзі. Каб нам мець лепшую будучыню, мы ўсе павінны маліцца і прасіць Бога ласкі, каб мы змаглі добра выхоўваць сваіх дзяцей, моладзь, бо калісьці яны прыйдуць да стырна ўлады ў нашай краіне, і вельмі важна, каб гэтыя кіраўнікі былі сумленныя і духоўныя людзьмі, каб у іх сэрцах была хрысціянская дабрыня да людзей, каб яны заўсёды былі гатовыя ім дапамагчы.

**— Падчас візіту на Беларусь улетку мінулага года патрыярха Алексія II Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ён разбярэцца з каталікамі і пратэстантамі, якія «заняліся незразумелым палітыканствам». Як, на Вашу думку, можа закрыццё праграмы і з'яўляецца рэалізацыяй тых абяцанняў?**

— Не, я так не сказаў бы, таму што я не чуў гэтых слоў, а, па-другое, як святар магу пацвердзіць, што сапраўды існуе вялікая небяспека з боку рознага роду псеўдарэлігійных вучэнняў, асабліва з Усходу. Іх нельга назваць рэлігіяй таму, што там проста людзі вераць чалавеку, які аб'яўляе сябе прарокам. Гэта ўжо не вера, а нейкая мафіёзная структура. Нашая зямля спрадвечна хрысціянская, і мы павінны захоўваць веру сваіх бацькоў не толькі ў сваіх сем'ях, але і ў сваім краі. Мы павінны захаваць свой духоўны скарб.

**— Ойча, можа да закрыцця перадачы спрычыніліся прадстаўнікі іншых канфесій, якім не падабалася, што каталікі маюць столькі эфірнага часу?**

— Іншыя? Такіх доказаў я не маю, але па-чалавечы можа і ёсць у іншых такая зайздрасць. Як кажа апостал Павел, мы павінны ісці, абганяючы адзін аднаго, у добрым значэнні, без зайздрасці. Кожны можа ісці справядліваю дарогаю, і думаю, на радыё могуць быць не толькі забаўляльныя, музычныя, палітычныя праграмы, але цалкам мае права выступіць чалавек з Божым словам, чалавек духоўны. У мінулыя гады мы не раз чулі, як той ці іншы каментатар альбо філосаф спрабаваў растлумачыць рэлігійныя догмы, гэта выглядала недарэчна, я гэтага ніколі не ўспрымаў.

**— Якая была рэакцыя вернікаў, у тым ліку Вашых парафіянаў, на закрыццё перадачы?**

— Я ведаю, што нашу праграму слухалі розныя людзі незалежна ад канфесійнай прыналежнасці. Калі я аб'явіў у святыні аб закрыцці перадачы, людзі пачалі плакаць, многія людзі, ведаючы ўжо, што праграму закрылі, усё роўна сядзелі ў адпаведны час каля радыёпрыёмнікаў, чакаючы любімую перадачу.

Усе гэтыя людзі — нашыя старэнькія маці, хворыя — напэўна, будуць яшчэ не адну нядзелю а 11 гадзіне раніцы падыходзіць да прыёмнікаў і з надзеяй чакаць. Людзі перажываюць, моляцца. Трэба шмат маліцца, бо ўжо паспрабавалі жыць аднымі матэрыяльнымі памкненнямі і нарэшце адчулі, што калі няма духоўнасці, то не можа быць і шчаслівага жыцця. Нават у багацці. Дай Бог, каб вяртанне было не толькі «Голасу Душы», але каб усе вярнуліся да голасу свайго сумлення. Каб, убачыўшы, адчулі, што туды кліча нас голас нашага сумлення, каб прыйшлі да тых духоўных крыніц, якія могуць нас ачысціць, вырашыць нашыя праблемы ў сямейным і культурным жыцці.

**— Я так разумею, Вы не збіраецеся апускаць рукі і будзеце дамагацца аднаўлення праграмы?**

— Так, я імкнуся наладжваць кантакты, сустрэчы. Адначасова многія самі праяўляюць ініцыятыву. Зусім нядаўна са мной звязаўся дэпутат Вярхоўнага Савета Уладзімір Пятровіч Нісцюк, сказаў, што вельмі занепакоены лёсам перадачы, і абяцаў паведаміць пра гэтую справу Прэзідэнту. Ён падаў і свой тэлефон. Яшчэ раз паўтару, у мяне вялікае спадзяванне на добрую волю з боку Прэзідэнта. Акрамя гэтага, сабрана ўжо некалькі дзесяткаў ці нават тысяч подпісаў у падтрымку перадачы, і подпісы працягваюць паступаць на адрасы дзяржаўных устаноў.

**— «Голас Душы» быў беларускамоўнай радыёперадачай. А ў астатняй сваёй духоўнай дзейнасці Вы таксама ўжываеце беларускае слова?**

— А як жа інакш! Абавязкова. Будзем і надалей развіваць і ўдасканальваць спевы, малітвы і пераклады. І калі вы чулі ў «Голасе Душы» калядкі на беларускай мове, то, напэўна, заўважылі, што не ўсе яны былі перакладзены. Таму мы далей працуем над перакладам. Ідзе пераклад і іншых спеваў і малітваў, каб людзі маглі з радасцю слухаць Божае слова на мове сваёй Айчыны. Так павінна быць і так будзе.

**Распытваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# *Ігар Германчук:* «Для нас беларускае слова заўсёды будзе першасным»

***Першы нумар адноўленай газеты «Свабода» ўбачыў свет 25 сакавіка 1990 года. Яе стваральнікі імкнуліся зрабіць новае выданне незалежнай беларускай газетай, якая магла б на роўных спаборнічаць з друкам камуністычнай партыі і кіраванай ёй дзяржавы.***

***Праз год рэдактарам «Свабоды» стаў Ігар Германчук. Менавіта пры ім яна набыла сваё аблічча газеты, непадобнай да іншых не толькі правапісам, але і зместам. Дзякуючы таму газета з таго часу і дагэтуль стала павялічвае кола сваіх чытачоў і сама аплачвае сваё існаванне.***

***Але нішто не стаіць на месцы. Змены адбываюцца і ў «Свабодзе». Пра іх ды пра іншае з рэдактарам «Свабоды» гутарыў карэспандэнт «Нашага слова» У.Панада.***

**— Сваю папулярнасць «Свабода» набыла ў час, калі яе рэдактар быў дэпутатам Вярхоўнага Савета і на старонках газеты публікавалася тое, аб чым гаварылася ў кулуарах вышэйшага органа ўлады, тое, што было таямніцай для большасці грамадзян. Але ж цяпер Вашае становішча змянілася...**

— На змест газеты страта мною дэпутацкага статуса паўплывала нязначна, бо найбольш цікаўная нашым чытачам інфармацыя праходзіла праз Вярхоўны Савет толькі ў дапрэзідэнцкія часы. Цяпер жа ўсе цікавыя, сенсацыйныя звесткі трапляюць у прэзідэнцкую адміністрацыю.

Цяпер я займаюся перш за ўсё рэдактарскай працай, а інфармацыю здабываюць нашыя карэспандэнты, якія маюць уласныя крыніцы звестак. Праўда, працаваць ім стала цяжэй — прэзідэнцкая адміністрацыя працуе больш замкнёна і публікуе толькі тыя звесткі аб сваёй дзейнасці, якія лічыць патрэбнымі. Але ж нашая газета не залежыць ад урадавых інфармацыйных структур. Аб новых падзеях мы даведваемся самі.

**— «Свабода» карыстаецца выключна ўласнымі крыніцамі інфармацыі?**

— Безумоўна. Мы зацікаўленыя ў выключнасці, непадобнасці нашых публікацый. Тыя ж газеты, якія карыстаюцца паслугамі ўрадавых інфармацыйных агенцтваў, паведамляюць кожная пра тыя ж самыя падзеі, пішуць пра адно і тое ж.

**— Вашая газета стваралася як палітычнае выданне, але цяпер яна ператварылася ў грамадска-палітычную. Гэта — рэакцыя на змены, што адбываюцца ў грамадстве, ці вынік перагляду канцэпцыі выдання?**

— Гэта — вынік таго, што мы хочам стаць больш масавай газетай. Мы імкнёмся зрабіць сваімі чытачамі, напрыклад, тых людзей, якія пасля змены галоўнага рэдактара «Народнай газеты» перасталі быць яе чытачамі. «Свабода» імкнецца зрабіцца папулярнай штодзённай газетай, а значыць, мы мусім пісаць не толькі пра палітыку.

«Свабода» апошнім часам змяшчае на сваіх старонках матэрыялаў разнастайнай тэматыкі значна больш, чым калісьці. Яна перастае быць газетай выключна для тых, хто цікавіцца палітыкай. Мая мэта — зрабіць яе яшчэ больш разнастайнай, цікавай самаму шырокаму колу чытачоў. Бо калісьці газета арыентавалася пераважна на, скажам так, беларускіх патрыётаў. А цяпер мы працуем на больш шырокую аўдыторыю.

**— На тых, хто не з'яўляецца патрыётам?**

— У грамадстве ёсць частка людзей — прыхільнікаў нацыянальнай ідэі. Але астатняя частка грамадства на першае месца ставіць іншыя ідэі, яе турбуюць іншыя праблемы. Апошнім часам мы імкнёмся пашырыць кола сваіх чытачоў за кошт якраз гэтай аўдыторыі. На леташнім рэферэндуме за беларускую мову і гістарычную сімволіку галасавалі мільён нашых грамадзян, хаця не ўсе з іх гавараць па-беларуску. Менавіта на іх мы імкнёмся абаперціся.

**— У канцы мінулага года Вы, беручы ўдзел у адной з праграм беларускай рэдакцыі «Радыё Свабода», гаварылі пра неабходнасць адмовіцца ад правапісу, якім карысталася газета ў той час, пакінуўшы ад «тарашкевіцы» хіба што мяккія знакі. Але сёння «Свабода» выдаецца так званай «наркамаўкай»...**

— Пачынаючы з гэтага года газета карыстаецца афіцыйным правапісам. Думаю, што «Свабода» выканала сваю функцыю, паказаўшы, якім быў правапіс да рэформы. Але зрабіць газету масавай, карыстаючыся гэтым правапісам было, на мой погляд, немагчыма. «Тарашкевіца» адштурхоўвала ад нас новых чытачоў, якія спосаб напісання «Эўропа» лічаць папросту штукарствам філолагаў, не ўспрымаючы сур'ёзна. Таму дзеля пашырэння шэрагу сваіх падпісчыкаў «Свабода» папросту мусіла перайсці на правапіс, даступны ім.

**— Задавальняючы патрабаванні новых чытачоў, ці не чуеце вы нараканняў з боку старых?**

— Мы атрымліваем лісты, і часам вельмі вострыя, з выказамі незадаволенасці зменамі, што адбываюцца ў газеце. Але большасць іх датычыць не правапісу, а з'яўлення на нашых старонках расійскамоўных матэрыялаў. Але мы маем і іншую пошту — лісты людзей, якія ўхваляюць гэта.

**— Гэткія спрэчкі не здзіўляюць: «Свабода», якая раней была выказнікам поглядаў нацыянальна арыентаванай часткі грамадства, спачатку адкінула стары правапіс, а цяпер усё болей матэрыялаў публікуе па-расійску...**

— Вы хочаце спытаць, што стала таму прычынай? Мы хочам расійскамоўных беларусаў (якіх, дарэчы, большасць) зрабіць нашымі сталымі чытачамі. Частка гэтых людзей не бярэ ў рукі газету з тае толькі прычыны, што яна друкуецца выключна па-беларуску. «Звязда», якую я лічу больш якаснай за «Народную газету», «Советскую Белоруссию» ці іншыя, не можа параўнацца з імі накладам з тае толькі прычыны, што яна беларускамоўная. Частка людзей арыентуецца на расійскамоўны друк — гэта рэальнасць. Таму мы хочам, каб людзі, зачапіўшыся спачатку за расійскамоўныя нашыя старонкі, пераадолелі свой псіхалагічны бар'ер у дачыненні да нас як беларускай газеты.

**— Але ж найбольшую колькасць чытачоў даў бы вам, у такім выпадку, поўны пераход на расійскую мову...**

— Безумоўна, гэта быў бы самы просты варыянт. Але для нас ён непрымальны хаця б таму, што мы хочам выдаваць усё ж такі нацыянальную газету. Каб прадавацца і існаваць, мы папросту змушаныя трэцюю частку публікацый друкаваць па-расійску, хочам мы таго ці не.

**— Прыстасоўваючыся да існавання ва ўмовах рынку, «Свабода» змяніла правапіс і моўную канцэпцыю. Але апошнім часам яна, здаецца, мяняе і палітычныя арыенціры. Калісьці яна адназначна падтрымлівала БНФ і яго лідэра, нейкі час таму пачала змяшчаць крытычныя пра іх выказванні, а цяпер на старонках газеты адкрыта ці прыхавана рэкламуюцца іншыя асобы і сілы: Багданкевіч ды «Грамадзянскае дзеянне». «Свабода» — газета Багданкевіча» — мне ўжо даводзілася чуць такія выказванні. Наколькі яны слушныя?**

— «Свабода» не была газетай Пазьняка і не стане газетай Багданкевіча ці каго-небудзь яшчэ, бо гэта — смерць для газеты. «Свабода» падтрымлівае ўвесь спектр дэмакратычных сілаў — і Пазьняка, і Шушкевіча, і Багданкевіча, і іншых. Але цяпер на нашых старонках і сапраўды радзей згадваецца Народны Фронт і ўсё часцей — «Грамадзянскае дзеянне». Але гэта выклікана не нашымі прыхільнасцямі, а раскладам сілаў у парламенце. Мы проста адлюстроўваем сітуацыю, калі нішу БНФ у парламенце заняла Аб'яднаная грамадзянская партыя. І, натуральна, інфармацыя пра яе з'яўляецца ўсё часцей.

**— Імкненне абсалютна дакладна адпавядаць сітуацыі можа мець вынікам прызнанне неабходнасці прадстаўлення поглядаў аграрыяў і камуністаў у палітычным плане і поўны пераход на расійскую мову ў моўным...**

— У гэтых словах гучыць іронія. Але калі нейкія цікавыя падзеі адбудуцца ў камуністычным лагеры, мы будзем паведамляць і пра гэта. Мы пішам пра ўсё, што цікава, — памятаеце фармулёўку: «Сенсацыя — не чалавек, пакусаны сабакам, а сабака, пакусаны чалавекам».

**— Калі гаварыць цытатамі, дык варта ўзгадаць два агульнавядомыя прынцыпы: «З дзвюх прыкрасцей абраць меншую» і «Сярод ваўкоў жыць — па-воўчы і выць».**

— Нам і сапраўды даводзіцца рабіць выбар. Я ўжо чуў прапановы рабіць цалкам расійскамоўную газету, на гэта нават прапаноўваліся грошы. Мы адказалі «не». Але дзеля таго, каб газета існавала і развівалася, мы змянілі яе аблічча, каб не парушаць яе статуса беларускай. Хаця нашыя партнёры і прапанавалі нам захаваць не больш паловы беларускіх тэкстаў, абгрунтоўваючы гэта тым, што народ хоча якраз такую газету. Як бачыце, калі раней мову і правапіс вызначала палітыка, дык цяпер гэта — вынік стану фінансаў. Бо мы вырашаем пытанне не выбару мовы, а развіцця газеты.

**— Менавіта так?**

— «Свабода» існуе, бо лічыцца візітнай карткай дэмакратыі. За апошні час намаганнямі ўладаў у краіне было адкрыта ці мала газет, і калі б да гэтага спісу далучыліся яшчэ і мы, справа атрымала б занадта вялікі розгалас. Таму для нас зроблена выключэнне. На «Свабоду» можна паказаць пальцам і сказаць недзе на Захадзе: «Паглядзіце, такая непрыемная нам газета ўсё ж такі выходзіць». Тым не менш, пэўныя захады ў дачыненні да нас робяцца. Газета ўжо не мае магчымасці друкавацца ў Оршы і робіць гэта за мяжой — у Літве. Можа быць зроблены і наступны крок — забарона нас распаўсюджваць праз дзяржаўную пошту. Таму мы ствараем уласную сетку распаўсюджвання.

**— Мне даводзілася чуць, што ў гэтай ды іншых газетных справах вы маеце партнёраў. Хто яны?**

— Мы супрацоўнічаем з выданнямі «Имя» ды «Белорусская деловая газета» — ствараем агульныя пункты продажу, структуру, якая будзе займацца дастаўкай нашых газет чытачам, маем іншыя супольныя праекты.

**— Перастаўшы быць непадобнай да іншых моваў, правапісам ды зместам, «Свабода» мусіла набыць мноства канкурэнтаў. Яны ў вас ёсць?**

— Безумоўна, гэта грамадска-палітычная прэса, у першую чаргу дзяржаўная, якая мае тую ж чытацкую аўдыторыю, што і мы, — «Народная газета» ды іншыя. Думаю, што ў параўнанні з імі мы знаходзімся ў лепшай сітуацыі, бо нашыя журналісты працуюць больш энергічна. Так, мой працоўны тыдзень складаецца з сямі дзён. Бывае, мы працуем да 3—4 гадзін ночы, каб скараціць тэрмін дастаўкі газеты ў друкарню і да падпісчыкаў. Але мы не баімся канкурэнцыі. Наадварот, мы хочам, каб цяперашнія дзяржаўныя выданні сталі свабоднымі, а значыць, і лепшымі, больш ці-кавымі. Спаборнічаць з імі нам стала б цяжэй, але любая канкурэнцыя — гэта добра. Яна карысная для выдання, для чытача і, урэшце, для стану дэмакратыі ў краіне.

**— У якім кірунку будуць адбывацца далейшыя змены «Свабоды»?**

— У першым паўгоддзі мы пачнём выходзіць тры разы на тыдзень. А пасля таго, як «Свабода» атрымае ад уладаў дазвол друкавацца ў адной з дзяржаўных друкарняў сталіцы альбо супольна са сваімі партнёрамі створыць уласную друкарню, мы збіраемся перайсці на штодзённы выпуск.

Думаю, перспектывы ў нас добрыя. Газета набыла ўласнае аблічча, мае сталую аўдыторыю чытачоў і пашырае яе за кошт новых сваіх прыхільнікаў. Да таго ж я бачу, што нашыя канкурэнты не гатовыя працаваць так шмат, як працуем мы.

**— І апошняе пытанне: што б хацелі Вы — рэдактар газеты, у якой, нягледзячы на яе цікаўнасць і дэмакратычнасць, наша слова займае ўсё меней месца, сказаць чытачам «Нашага слова», для якіх беларушчына з'яўляецца прыярытэтам?**

— Для нас беларускае слова заўсёды будзе першасным. А тым з нашых чытачоў, для якіх яно галоўнае, раю чытаць «Наша слова» — газету, якая адстойвае пазіцыі нашай мовы. Але газеты павінны быць рознымі, таму «Свабода» будзе выданнем не толькі патрыятычным, але і ўважлівым да перамен і падзеяў у нашым грамадстве.

*Слуцкаму збройнаму чыну — 75*

# Гонар і крыж Беларусі

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

Мастацкая выстава, што таксама дзялілася на дзве часткі — выставу мастакоў і выставу фотамайстроў, была размешчаная ў фае. Яна, адкрытая ў дзень апошняга бою слуцакоў з чырвонаармейцамі — 28 снежня, несла ў сабе сэнс своеасаблівага рэквіема. Свежасць гістарычнай тэмы натхніла аўтараў на неардынарнасць яе рашэння ў сваіх палотнах. Я — не мастацтвазнавец, але мушу адзначыць, што шаноўная публіка (а сярод прысутных былі людзі, якія тонка разбіраліся ў мастацтве, — народны паэт Ніл Гілевіч, паэт, публіцыст і мастацтвазнавец Зянон Пазьняк, мастак-графік Мікола Купава, прафесар, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, прафесар Мікола Савіцкі) падоўгу спынялася каля трыпціха мастака Свістунова «Слуцкае паўстанне», партрэтаў арганізатараў Збройнага чыну Уладзіміра Пракулевіча ды Паўла Жаўрыда, што выканалі мастакі Сулкоўскі і Рэй. Усіх прыемна ўразіў праект помніка слуцкаму ваяру, які зрабіў скульптар Шатэрнік. У вершніку на кані спецыялісты ў беларускай гісторыі ўбачылі рысы генерала Булак-Балаховіча...

Увагу прыцягнулі таксама фотастэнды аўтараўмайстроў аб'ектыва Кармілкіна ды Савіча. Фатаграфіі яскрава, на высокім публіцыстычна-мастацкім узроўні паказалі нялёгкую напружаную працу беларускіх адраджэнцаў — сяброў БНФ «Адраджэньне», ТБМ імя Ф.Скарыны, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі, іншых прагрэсіўных патрыятычных арганізацый — у справе аднаўлення і шанавання памяці ўдзельнікаў Збройнага чыну за перыяд з 1992 па 1995 год уключна. Здымкі засведчылі моманты ўстанаўлення памятных крыжоў у Семежаве, Грозаве і Вызне, адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку ў Слуцку, дзе восенню 1920 года адбыўся з'езд жыхароў Случчыны, які рашыў збройна бараніць незалежнасць сваёй краіны — Беларускай Народнай Рэспублікі.

На пытанні журналістаў, у якіх умовах давялося працаваць, адказаў адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Нацыянальнага камітэта Мікола Купава. Аднаўляць у сённяшніх умовах памяць пра Слуцкае паўстанне, заўважыў мастак, не проста. І яшчэ калі ўлады на месцах адносяцца да дзейнасці сяброў Нацыянальнага камітэта або пазітыўна, або нейтральна (рэдка калі з непрыязню), то людское цемрашальства шчыра засмучае.

Вось і ў нядаўняй паездцы ў пасёлак Чырвоная Слабада (гістарычная назва — Вызна) Салігорскага раёна адбыўся непрыемны выпадак. Калі мясцовы праваслаўны святар убачыў, што сябры Нацыянальнага камітэта збіраюцца тут устанаўліваць шасціканцовы крыж, то пачаў настройваць тамтэйшых людзей і супраць нацкамаўцаў. І такое ён рабіў, нягледзячы на тое, што на імпрэзу ў Вызну прыехаў дабраславёны Уладыкаю праваслаўны святар, што гэты крыж асвечаны прадстаўнікамі трох канфесій — праваслаўнай, уніяцкай ды каталіцкай.

Мусіць, вызненскі святар не ведае, што гэта крыж не каталіцкі, а беларускі, Ефрасіннеўскі, тых часоў, калі яшчэ не было падзелу Хрысціянскай Царквы на праваслаўную і каталіцкую канфесіі.

— Калі толькі той святар і яго прыхільнікі знясуць крыж, гэта будзе свяцтатацтва, акцыя супраць Бога. Таму, відаць, трэба звяртацца нам да Уладыкі, каб супакоіць недасведчанага служку царквы, не дапусціць таго да злачынства, — заўважыў Мікалай Мікалаевіч.

Але размова ўдзельнікаў заключнай імпрэзы, канешне, выйшла за межы «лакальных» клопатаў.

Ніл Гілевіч, які адкрыў вечарыну, не толькі згадаў пра мужнасць слуцкіх ваяроў, палеглых у барацьбе за незалежнасць свайго народа, але і пажадаў прысутным у цяперашнім наступе самых змрочных шавіністычных сіл на беларускую гісторыю і беларускую мову грамадзянскай мужнасці, што заўсёды мелі нашыя продкі.

Да гэтага заклікаў і Зянон Пазьняк. Ён правёў паралель паміж адкрытым генацыдам народа Чачні і «ціхім» генацыдам беларускай нацыі, на якую разам з экалагічным Чарнобылем абрынуўся Чарнобыль духоўны. Праўда, заўважыў ён, яшчэ прыйдуць на Беларусь часы, што не за гарамі, калі Слуцкі збройны чын будзе называцца Беларускім збройным чынам (бо гэта было не лакальнае паўстанне, а народная вайна, хаця і кароткая, супраць акупантаў), і будзе гэта падзея ў гісторыі Айчыны адзначацца, як дзяржаўнае свята.

Шмат цікавага распавёў і прафесар-гісторык Анатоль Грыцкевіч. У прыватнасці, прыгадаў адзін з момантаў з польска-савецкіх перамоваў у Рызе ў 1920 годзе, калі прадстаўнік РСФСР таварыш Іофе па рэкамендацыі бальшавіцкай «вярхушкі» прапанаваў палякам забраць усю тэрыторыю Беларусі. Але тыя адмовіліся — забаяліся ўзброенага паўстання беларусаў...

Са сцэны гучалі песні вядомай кампазітаркі і спявачкі Галіны Смоляк на словы Сяргея Законнікава, Анатоля Зэкава ды іншых паэтаў у яе ўласным выкананні і ў выкананні яе вакальнай групы дзяцей «Пеўчыя», народныя песні, якія спяваюць на Случчыне, з вуснаў маладых дзяўчатак і хлопцаў з фальклорнага тэатра «Госціца» гучала беларускае паэтычнае слова — вершы чыталі акцёры «Вольнай сцэны».

І ў вачах людзей свяцілася надзея. І, верылася, яшчэ настане час, калі ўвесь беларускі народ будзе ўшаноўваць Слуцкі чын годна, па запаветах, якіх моцна трымаліся нашы продкі, у тым ліку — слуцкія патрыёты.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Да 75-годдзя Таварыства беларускай школы*

# За долю і волю

*(Працяг. Пачатак у №№ 1,2,4.)*

Першы нумар «Летапіса ТБШ», які пабачыў свет у траўні 1933 г., адкрываецца здымкам Ельцаўскага гуртка, які ў той час разгарнуў вялікую культурную работу на сяле. (Справаздача аб яго дзейнасці змешчана пад рубрыкай «Хроніка ТБШ».) Заўважу, што рубрыка гэта цалкам прысвечана жыццю і дзейнасці суполак, іх барацьбе за сваё



існаванне і выжыванне. Па ёй лёгка прасачыць за станам работы ўсяго Таварыства, успрымаць велізарны духоўны ўздым і энтузіязм, якія апанавалі беларускую моладзь і з якімі яна вывучала, бараніла і адстойвала сваю нацыянальную культуру. Сапраўды, не кепскі быў гэты «абарончы» нацыяналізм, аб якім пісаў месячнік.

Найцяжэй чытаць паведамленні пра знішчальныя ўдары мясцовых улад па суполках, якіх «завешвалі» і рабавалі па розных выдуманых прычынах. Несправядлівасць і нацыянальны прыгнёт былі відавочнымі. Вось, прыкладам, навіны «Хронікі» ў гэтым нумары па Косаўскаму, Слонімскаму, Пружанскаму, Свянцянскаму, Беластоцкаму, Ваўкавыскаму, Стаўпецкаму паветах. У вёсках **Байкі, Бярэзніца, Варанілаўцы** пастанавілі: залажыць курсы для дарослых, якія маюць вялікае жаданне навучыцца чытаць і пісаць па-беларуску; дамагацца школы ў роднай мове; арганізаваць адукацыйную, драматычную і музычна-харавую секцыі; адчыніць бібліятэку-чытальню. Утвораны новыя гурткі ў мястэчку **Свіслач**, вёсках **Гарбачы, Улезлы, Дарані, Ператоры** і **Кожава**. Ліквідаваны гурткі ў вёсках **Галік, Харошча, Куляшы, Рацькевічы, Була, Быч, Серадава, Сакоўцы, Размеркі, Хадаркі, Любішчыцы, Жытлін, Воля, Уласаўцы, Аляксейкі** і інш. «Прычыны скасавання гурткоў невядомы, таксама як не пададзены прычыны забароны ладжання спектакляў», — заўважае «Хроніка». Жыхары вёскі **Варонічы** дабіваюцца дазволу стварыць хаця б бібліятэку-чытальню, бо ў іх спынена работа гуртка ТБШ (працаваў з 1926 па чэрвень 1932). **Раманаўскі гурток** распачаў працу са збірання кніжак для бібліятэкі-чытальні, а таксама прыступіў да будовы дома пад сядзібу гуртка. «Ужо зроблены, — паведамляюць раманаўцы, — зруб і пастаўлены кроквы, а таксама нарыхтаваны матэрыял на вокны, столь і падлогу». Паведамленні з **Хвалаўскага** і **Шэнеўскага гурткоў**: адбыліся рэвізіі, і сябрам прапанавана «самаліквідавацца» разам са сваімі беларускімі бібліятэкамі, а ўзамен ім паабяцалі польскую бібліятэчку «porzytecznych ksiąźek» і дазвол арганізаваць «koło młodzieży wiejskiej». Найбольш паспяхова працуюць гурткі ў **Вялікіх Грынках** і **Ельцаўскі**. На іх сцэнах ідуць спектаклі «Птушка шчасця», «Паўлінка», «Пан міністр», «Лекары і лекі», «Цуд», «Выбары старшыні», «Апошняе спатканне», «Чорт і баба», «Па рэвізіі», «Модны шляхцюк», «Збянтэжаны Саўка», «Дзядзька Якуб», «Пярэстая красуля», «Змагары за ідэю», «На паэтыцкай вышыні».

Значны ўклад у работу ТБШ уносілі студэнты-беларусы Віленскага і Варшаўскага універсітэтаў, аб'яднаныя ў Беларускі студэнцкі саюз, а таксама Навагрудская беларуская гімназія. У допісе за подпісам «Прысутны» «Беларускі спектакль у Нягневічах» расказваецца, што мястэчка стала асяродкам беларускай культуры дзякуючы дзейнасці ТБШ, якое дамаглося «злучэння усіх беларускіх сялянскіх інтэлігентаў да барацьбы за лепшую будучыню, развіццё беларускай сведамасці і культурна-прасветнай працы». «Прадстаўленне, зладжанае студэнтамі, — гаворыцца далей у нататцы, — з'яўляецца нібы працягам цяжкай працы ТБШ, якое за час свайго існавання (1926—29 гг.) патрапіла зладзіць у адным гмінным «магазыне» да 50-ці беларускіх спектакляў, на якія кожны раз з'яўлялася не меней за паўтысячы людзей».

Спектакль у Нягневічах, аб якім расказала «Хроніка» (за дазволам хадзілі за 18 км ажно чатыры разы), прайшоў у «магазыне» з вялікім поспехам. Сыгралі жарт у 2-х дзеях студэнта Я.Хвораста «На паэтыцкай вышыні». Пасля п'есы былі дэкламацыі «Важная хвіга» і «Сабачая служба» Ядвігіна Ш., што стварыла надзвычай вясёлы настрой у публікі, у якой кожнае слова, як маланка, выклікала грымоты смеху.

Велікодныя навіны на гэтым не канчаліся. Сучаснаму чытачу цікава пазнаёміцца з тэматыкай папулярных лекцый студэнтаў-беларусаў, прачытаных у гуртках ТБШ на калядных вакацыі: «Што мы павінны ведаць аб сусвеце», «Доля жанчыны на вёсцы», «Чалавек і хатняя жывёла», «Развіццё Беларускага адраджэнскага руху», «Цуды тэхнікі», «Беларускі тэатр і яго грамадскае значэнне», «Літаратура і яе грамадскае значэнне», «Янка Купала — прарок Беларускага адраджэння», «Культурна-асветная самапомач сярод беларусаў», «Народ і асвета», «Што такое літаратура і дзеля чаго яна патрэбна», «Беларускія народныя песні». Лекцыі прачыталі студэнты Варшаўскага і Віленскага універсітэтаў М.Мілючанка, П.Першукевіч, П.Чэчка і М.Орса. Апошнія дзве лекцыі прачытаў у Беластоку Рыгор Шырма.

У перадавым артыкуле першага нумара «Летапіса» сфармуляваны мэты і праграмы выдання: «Імкнуцца хаця ў рамках сваіх маленькіх магчымасцяў да заспакаення таго духоўнага голаду, які пануе на вёсцы, шукаючы шляхоў, што лучылі б паміж сабою шчырых і сведамых, але раскіданых па ўсёй Заходняй Беларусі, ідэйна адданых культурнай працы адзінак... Далейшую і шырэйшую праграму падкажа нам жыццё; бліжэйшая ж — гэта праца нашага Таварыства, якое мае сваю гісторыю, вялікі культурны дарабак на вёсцы і... вялікія страты».

*(Працяг будзе.)*

**Ірына КРЭНЬ.**

## *Хроніка ТБШ*

*** **Жыцьцё і праца Ельцаўскага гуртка.** Мінулай восені гуртком была зроблена пастаноўка пьесы Тагабочнага „Змагары за ідэю". Ня гледзячы на балота і цёмныя васеньнія вечары публікі сабралась вельмі многа; маладыя ішлі з ліхтарамі, старэйшыя ехалі фурманкамі са ўсіх акалічных вёсак. Перад падняцьцем заслоны саля ўжо была біткам набіта народам. Як самая пьеса, так і нашы змагары за беларускую культуру, якія на сцэне без ніякага закіду выконвалі свае ролі, прыводзілі глядзельнікаў у захопленьне; сыпаліся воплескі, пахвалам ня было канца. Здавалась сабраныя, як галодныя, лавілі на ляту кожнае слова артысты. Відаць было, што гэтыя словы будзілі надзеяй, грэлі ад веку змучаныя душы, прыцягалі да сябе, як сонца кветку пасьля непагоды. Чалавек мімавольна пераносіўся ў няведамую краіну жыцьцёвых мар. Чуцён быў здаровы сьмех, знак агульнага задаваленьня. Чуткая працоўная беларуская душа, узварушаная абразком гаротнага сялянскага жыцьця, не магла стрымацца ад сьлёз, асабліва пры апошняй зьяве Калістрата і Антона. Пасьля спэктакля адбыліся танцы. Моладзь дзякавала нашым артыстам і прасіла ладзіць спэктаклі, як можна часьцей.

На каляды ставілі тры абразкі: „Антось Лата", Т. Гушчы, „Заручыны Паўлінкі", Ф. Аляхновіча і „Лекары і Лекі", А. Гаротнага. Народу сабралась, як ніколі; была моладзь з далёкіх за 15 клм. адлеглых вёсак. Увесь спэктакль прышлося адыграць два разы і кажды раз саля была перапоўнена народам. Падчас першага сэансу публічнасьць у суседніх хатах ждала на другі. Старыя людзі гаварылі, што даўней гэтак ішлі толькі на фэст да Жырава (Жыровіцкі манастыр каля Слоніма), а цяпер на беларускае прадстаўленьне. Усё гэта сьведчыць аб тым, што беларуская моладзь нарэшце ўгледзіла адзіны свой шлях, шлях культуры, які вядзе да палепшэньня нашага гаротнага, мужыцкага жыцьця.

Дня 22 студзеня г. г. Часта наша моладзь затрымоўвалась над пытаньнем, як прачытаць у гуртку навукова-популярную лекцыю. З браку сваіх культурных сілаў мы запрасілі з Вільні сэкрэтара Галоўнае Ўправы грам. Шырму, які прачытаў у нашым Народнам Доме дзьве лекцыі,—21-га студзеня на тэму: „Што такое літэратура і дзеля чаго яна патрэбна", 22 студзеня на тэму: „Песьня у жыцьці народаў і беларуская народная песьня". Ня гледзячы на вялізарную сьнежную завею зыйшліся сябры з усіх акалічных вёсак у адлегласьці чатыры, пяць і дзевяць кілямэтраў; ішлі па калені ў сьнягу, хлапцы і дзяўчаты, наражаючы жыцьцё на небясьпеку, толькі каб пачуць живое роднае беларускае слова. Лекцыі далі нам вельмі многа. Першая — адчыніла вочы, як правідлова глядзець на літэратуру, разумець яе характар і значэньне, — другая—як трэба цаніць сваю народную песьню, як творчасьць мінулых пакаленьняў, праз якую можна адчуць і зразумець жыцьцё Беларускага Народу. Пасьля лекцыі гр. Шырма запісаў 15 арыгінальных мэлёдый з нашае вёскі. Доўга пасьля мы гутарылі і разьбіралі чытанае, прыпаміналі вялікую заслугу найлепшых сыноў Беларусі Якуба Коласа і Янкі Купалы, якія кінулі ў масы агнявыя іскры культурна-нацыянальнага адраджэньня, сяньня гэтыя іскры палаюць над Беларусьсю вялікім і яркім агнём. Чытаючы творы нашых паэтаў мы здабываем веру і глыбокае пераконеньне, што ніякая сіла ня можа спыніць адраджэнскага поступу нашага народу. Вельмі пожадана, каб гэткія лекцыі адбываліс часьцей.

Дня 26 лютага ставілі „На вёсцы", Ф. Аляхновіча і „Міхалку"—пераклад з польскага. Былі дэклямацыі вершаў. Пасьля спэктаклю адбыліся танцы. Агульнае зацікаўленьне, як заўсёды, было вельмі вялікае.

Дня 17 красавіка на другі дзень Вялікадня адыгралі „Апошняе спатканьне", У. Галубка. Наша драматычная сэкцыя не шкадуючы энэргіі ахвярна ідзе наперад. Бракуе толькі добрае дэкарацыі на сцэне. „Апошняе спатканьне" не дало глядзельнікам сьмеху — наадварот сьлёзы. Вельмі многа глядзельнікаў плакалі ад пачатку да канца спэктаклю. Калі адзін з артыстаў зьвярнуўся да аднае такое асобы, просячы выбачэньня за сьлёзы, дык пачуў такі адказ: „О, не! Мы павінны дзякаваць усёй драматычнай сэкцыі і гуртку, што паказалі нам праўдзівых, шчырых змагароў нашага адраджэньня, палепшаньня нашага нялюдзкага жыцьця. Нашыя сьлёзы ня былі сьлязьмі роспачы, а радасьці, што ўсё-такі ёсьць людзі, якія не шкадуюць нават жыцьця для дабра Беларускага Народу".



**На здымках: Пятро Першукевіч,** студэнт Віленскага універсітэта, актыўны ўдзельнік адраджэння. Памёр у Навагрудку ў снежні 1933 г.

Славуты «магазын», пабудаваны яшчэ за паншчынай, які арандаваў Нягневіцкі гурток ТБШ. (Малюнак **Рамана Сцяпанавіча Лецкі**).

*Беларускае замежжа*

## Справы музейныя

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны, у гістарычнай зале, дзе калісьці працаваў Інстытут беларускай культуры, зараз месціцца музей. Дзеючая экспазіцыя «Беларусы ў свеце» расказвае пра знакамітых суайчыннікаў, якіх лёс раскідаў па розных кантынентах. Экспазіцыя ўвесь час узбагачаецца творамі выяўленчага мастацтва, асабістымі рэчамі, рукапісамі, фотадакументамі, іншымі рэліквіямі. У апошні час яна папоўнілася бюстам вядомага гісторыка Міхася Белямука, а таксама рэчамі і матэрыяламі, звязанымі з удзелам апошняга ў культурным жыцці Клііўленда (ЗША).

Бюст атрыманы ад аўтара, скульптара Аляксандра Летуна, а ўсё астатняе — ад Тамары Белямук, пры ўдзеле каторай быў створаны стэнд, які, на думку спадарыні Тамары, дапаўняе і пашырае сказанае пра яе мужа ў Беларускай гістарычнай энцыклапедыі. Матэрыялы стэнда сведчаць, што Міхась Белямук актыўна гуртаваў і аб'ядноўваў беларусаў у замежжы, быў ініцыятарам і фундатарам многіх добрых спраў. Напрыклад, удзельнічаў у заснаванні Клііўлендскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, Згуртавання беларускай моладзі, якое потым узначаліў, ініцыіраваў (і фундаваў) выданне часопіса «Полацак». Унікальныя экспанаты стэнда: копія Крыжа Ефрасінні Полацкай, сярэбраная плакетка-іконка Ефрасінні Полацкай (скульптар П.Вінчы), каляровы партрэт Францішка Скарыны.

**І.КРЭНЬ.**

# «Уздым» — гэта Адраджэнне

*Са старшынём Беларускага культурна-асветніцкага таварыства «Уздым» г.Даўгаўпілса, сябрам рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», паэтам Станіславам Валодзькам гутарыць карэспандэнт «Нашага слова» Людміла Рублеўская.*

**— У твайго цяперашняга візіту на Беларусь — афіцыйная прычына?**

— Я прыехаў з дэлегацыяй ад беларусаў Латвіі з мэтай перадаць у Адміністрацыю Прэзідэнта Беларусі зварот, у якім просім паспрыяць адмене візавага рэжыму для паездак з Латвіі на Беларусь. З Адміністрацыі Прэзідэнта нас накіравалі да намесніка міністра замежных спраў спадара Міхаіла Хвастова. Размова з ім адбылася канструктыўная, чакаем цяпер станоўчых вынікаў. З увядзеннем візавага рэжыму ўзнікнуць вялікія цяжкасці і для беларусаў, чые родзічы жывуць у Латвіі, і для латвійскіх беларусаў, што захочуць наведаць на сваёй радзіме бацькоў, сваякоў. Для збору подпісаў пад зваротам быў арганізаваны пікет ля консульства Беларусі ў Латвіі. Сабрана каля тысячы подпісаў, але, зразумела, калі спатрэбіцца, можна сабраць нашмат больш.

**— Як гуртуюцца беларусы Латвіі? Які твой удзел у справах беларушчыны?**

— Трохі нечакана для мяне самога мяне нядаўна абралі старшынём рады нашага таварыства «Уздым», таго самага таварыства, ля вытокаў якога я стаяў. Матэрыяльна я з гэтага, зразумела, не маю нічога, акрамя тых клопатаў, якія атрымаў у дадатак. Наша культурна-асветніцкае таварыства ўваходзіць у «Бацькаўшчыну». Ужо год у Даўгаўпілсе выдаецца газета «Прамень». Наклад яе — тры тысячы асобнікаў. Займелі магчымасць раз у квартал выдаваць беларускую старонку ў маскоўскай расійскамоўнай газеце «Латгалас лайкс». Назвалі гэтую старонку «Беларус Латгаліі». Асвятляем там сваё жыццё, даём навіны з Беларусі.

**— Дарэчы, у тым нумары газеты, што ты прывёз, ёсць матэрыял пра нядзельную беларускую школку...**

— Так, адкрыццё гэтай школкі было для нас радаснай падзеяй. Яно адбылося ў кастрычніку мінулага года. Колькасць дзяцей пакуль не вельмі вялікая — усяго дзесяць, але ёсць спадзяванне, што будзе больш.

**— Шмат гаворыцца пра нізкую нацыянальную свядомасць беларусаў, у тым ліку тых, што жывуць за мяжой... Хто з латвійскіх беларусаў больш прыхінаецца да вашага таварыства — з ліку інтэлігенцыі, рабочых, бізнесменаў?**

— Вядома, інтэлігенцыя. Бізнесмены ўвогуле стаяць у баку. Нават тыя, што маглі б аказаць таварыству дапамогу, пакуль гэтага рабіць не спяшаюцца. Чаго нельга сказаць пра

*(Заканчэнне на с.7.)*

# Кола сям'і

**Масару ІБУКА**

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Дзіця, народжанае ад бацькі-вучонага, не абавязкова стане вучоным

Я часта чую, як маці кажуць: «Напэўна, мой сын пайшоў у бацьку, у яго зусім няма музычнага слыху» ці «Мой муж — пісьменнік, таму наша дзіця піша добрыя сачыненні». Канешне, як гаворыць прымаўка, «Яблык ад яблыні недалёка падае» ці, як кажуць у Японіі, «З цыбуліны не вырастае ружа». Сапраўды, бываюць выпадкі, калі сын вучонага робіцца вучоным, а сын гандляра — гандляром. Але гэтыя выпадкі не азначаюць аднак, што прафесійныя якасці былі перададзены дзецям з генамі. Ад моманту нараджэння іх, напэўна, выхоўвалі ў такім асяродку, які даводзіў ім, што яны павінны працягваць справу бацькі. Акаляючы асяродак, які стварылі бацькі, робіцца асяродкам дзіцяці. Ён развівае яго здольнасці да прафесіі бацькі, абуджаючы цікавасць да гэтай прафесіі.

Калі б паходжанне было вызначальным фактарам у фарміраванні здольнасцей, дык тады дзеці пакаленне за пакаленнем успадчыннівалі б прафесіі бацькоў. Але жыццё нашмат цікавей, і не такія ўжо рэдкія выпадкі, калі дзіця вучонага робіцца скрыпачом, а ўрача — пісьменнікам.

Дастаткова проста паглядзець на людзей, побач з якімі вы жывяце, каб убачыць, што дзіця таленавітых бацькоў не абавязкова таленавітае. Свет пагардліва называе дзіця «не вартым свайго бацькі», хаця можна сказаць, што дзіця не адказвае за тое, кім яно стала, бо менавіта асяроддзе яго дзяцінства зрабіла яго нявартым.

І наадварот, дзіця, народжанае ад абібока і п'яніцы, можа зрабіцца цудоўным інжынерам ці мастаком.

Менавіта дзякуючы акаляючаму асяроддзю і жыццёваму вопыту дзеці, такія аднолькавыя пры нараджэнні, вырастаюць з рознымі здольнасцямі і характарамі.

Іншымі словамі, прафесія і здольнасці бацькоў не аказваюць прамога ўплыву на фармаванне здольнасцяў і характару дзіцяці. Можна толькі сказаць, што прычына таго, што сын урача робіцца ўрачом, у тым, што ён выхоўваецца ў атмасферы лекавых пахаў, людзей у белых халатах і пацыентаў.

### Сёння дзіця будзе зусім іншым, чым учора

Мы не заўсёды да драбніцаў заўважаем, як растуць нашы дзеці, таму што бачым іх кожны дзень. Але ж яны развіваюцца нашмат хутчэй, чым мы думаем. Прафесар Жан Піяжэ, сусветна вядомы швейцарскі спецыяліст па псіхалогіі развіцця, стварыў тэорыю фазаў росту, назіраючы за развіццём трох сваіх дзяцей. І чым больш я чытаю ягоныя кнігі, тым вастрэй адчуваю важнасць правільнай адукацыі і асяродку на кожнай стадыі развіцця.

Па назіраннях Піяжэ нованароджанае ссе ўсё, што трапляе яму ў рот, а ўжо праз 20 дзён пасля нараджэння будзе піць толькі малако і пачне настойліва яго патрабаваць.

Праз 3 месяцы ў дзіцяці развіваецца жаданне дацягнуцца і пакратаць што-небудзь, напрыклад, лялькy, што вісіць над калыскай, і робіць яно гэта з вялізным задавальненнем. А ў паўтара года гэтае ж дзіця здагадаецца, што калі нельга дацягнуцца рукой да пажаданага, дык можна дастаць палкай. Пасля 2 гадоў яно ўжо спрабуе суаднесці словы з абстрактнымі значэннямі, хаця і разумее іх часта па-свойму. Напрыклад, звязвае слова «мужчына» толькі са сваім татам ці дождж з прыбіраннем вуліц палівальнай машынаю.

Дзіця развіваецца з уразлівай хуткасцю і фізічна, і разумова. Таму так важна, каб яго развіццё правільна стымулявалася на кожнай стадыі. Каб дасягнуць гэтага, бацькі павінны вельмі ўважліва назіраць за тым, што і калі неабходна дзіцяці, што яму цікава, таму што менавіта бацькі бліжэй усіх да яго. Гэтак жа, як важна выбраць правільны час для вывучэння замежнай мовы, так існуе і адпаведны час для кожнага этапа ранняга развіцця.

Напрыклад, навучыць дзіця катацца на роліках ужо пасля таго, як яно навучыцца хадзіць, надзвычай складана, а прыкладна ў той жа час, як яно вучыцца хадзіць, можна, і праз пару месяцаў з яго атрымаецца цудоўны фігурыст.

Амерыканскі псіхолаг Макгроу правяла эксперымент з двума блізнятамі. Яна навучыла іх катацца на каньках, калі аднаму было 11, а другому — 22 месяцы. Вынікі былі відавочна розныя: дзіця, якое навучылі раней, мела нашмат большыя поспехі.

Дасюль мы ўскладняем дзецям жыццё, калі лічым, што рана вучыць іх таму ці іншаму, і такім чынам губляем «лепшы час».

*(Працяг будзе.)*

---

**Захапленні — Hobbies**

Захапленне, пра якое мы паведамляем сёння, перарасло звычайную забаўку дзеля душы, дзеля адпачынку пасля цяжкай працы. Краязнаўства, а менавіта так яно называецца, апроч маральнага задавальнення аднаму чалавеку можа паслужыць навукоўцам, усяму нашаму народу. Прыватныя, здавалася б, зборы — неацэнны скарб для навукі.

Любі свой край! Гэтыя словы для Аляксандра Мазура з вёскі Дуброва Шацілкаўскага (цяпер Светлагорскага) раёна даўно сталі справай. Ужо шмат гадоў ён збірае назвы ўрочышчаў, палеткаў, лясоў і паселішчаў наваколля роднай вёскі. Чытаючы ягоныя запісы, здзіўляешся трапным, вобразным слоўцам, якія выкарысталі ці прыдумалі дубраўчане, каб адрозніваць навакольныя мясціны.

## Краязнаўства

Найперш пра самую вёску Дуброва. Яе гістарычная частка ўмоўна падзелена на *Дайнекі, Буслы* і *Карпілаўку*. Назвы ўсіх пералічаных частак звязаныя з прозвішчамі жыхароў. І цяпер тут пераважаюць мясцовыя прозвішчы — Бусел, Дайнека.

Калі параўноўваць сучасныя карты з тымі, што былі складзеныя раней, то кідаецца ў вочы, што на новых картах адсутнічаюць некаторыя паселішчы, пераважна фальваркі і хутары, якія цяпер не існуюць. Розны лёс напаткаў гэтыя сядзібы ды іх жыхароў. Людская памяць аднак захавала іх назвы. *Ельнікі* (тры двары), *Гумнішча, Сецішча, Бугаў, Малое Вяльчо* (усе па два двары). Толькі ўспаміны засталіся ад паселішчаў (дакладней, хутароў) *Падзельніцкі, Грыноўка, Масцішча, Кадаўбы*. Цікава, што іх назовы не паўтаралі прозвішчы жыхароў, што гаспадарылі там.

Усе пералічаныя паселішчы напярэдадні Другой сусветнай вайны напаткаў незайздросны лёс: ці то па ўласнай волі, ці з дырэктывы ўладаў усе яны былі перанесены ў буйнейшыя вёскі.

Навакольныя ляскі, лясочкі, гаі напаткаў лёс згаданых паселішчаў. Некаторыя з іх яшчэ існуюць, але даўнія іх назовы пераважна не выкарыстоўваюцца, знікаюць.

*Акапаны лясок* — лес на ўскрайку Дубровы, які ўзвышаецца між тарфяных палеткаў, што з'явіліся на месцы былога балота. Гэтая назва, магчыма, паходзіць ад прыроднага месцазнаходжання: лясок адрэзаны ад іншых паніжэннямі. *Воўчы лясок* — гэтую назву цяпер не пачуеш, бо няма таго лесу. На тым пясчаным узгорку на левым беразе ракі Іпы цяпер сенажаць. Косяць сена і там, дзе калісьці былі *Гоманаў лясок* і *Занцаў груд*. Назва апошняга пайшла, відаць, ад уласнага імя. Магчыма там жыў чалавек прозвішчам Зан або Занко, а, магчыма, з ім штосьці здарылася ў гэтым лесе.

*Асінаўка, Бярозаўка, Зялёнае, Крушнікі* (верагодна, ад крушыны) — назвы даволі празрыстыя. А вось іншыя найменні лесу! Каб разгадаць іх сэнс, трэба было папытацца ў старэйшых жыхароў, даведацца значэнне некаторых дыялектных словаў ці адметных мясцовых словаў, словазлучэнняў. *Новіны* — назва паходзіць ад слова *новы, нові* — пакінуты палетак, які зноў пачалі араць. *Таўсты сьнет* — гэта назва звязана з бортніцтвам. Магчыма ў тым лесе бортнікі мелі свае дзялянкі. *Сьнет* — тоўсты дубовы (або іншага дрэва) аполак, які мацуюць пад борць. Старэйшыя людзі казалі, што там раслі вельмі тоўстыя дрэвы. Не ўдалося разгадаць таямніцу назваў *Ацяты, Ускоравень* ды *Шыбенка*. Апошняе, верагодна, ад *шыбаваць*, магчыма, — далёкае месца. Але не выключаны і такі варыянт — ад *шыбеніца*.

*Вал* і *Кадаўба* — гэтыя назвы, на наш погляд, зразумелыя: лес, панішчаны ветраломам, ды лясное ўрочышча, дзе раслі дуплістыя дрэвы, з якіх выраблялі посуд — кадаўбы. Але, як вядома, простыя разгадкі — памылковыя. А вось калі дашукацца да сапраўднага значэння, можа раскрыцца невядомая старонка гісторыі.

Сапраўднымі помнікамі працавітым людзям могуць стаць назвы поля, палеткаў, калісьці адваяваных у балота, леса. *Асінава даліна, Буда, Ельніцкі, Красны барок, Калінаўшчына, Муляцін* — нехта ж першым выцерабіў ляда, пасеяў тут збажыну. Але, каб даведацца — хто, то для гэтага трэба пашукаць і ў архівах. А што схавана ў назвах: *Брышта, Вуцьвінка, Жыдаўшчына, Карміч Лаза, Рабінаў курган, Саланец, Сецішча?*

Калісьці балота было тыповым палескім краявідам. Мясцовыя людзі звязалі з гэтымі абшарамі сваё жыццё, свой лёс. То і назвы даваліся — як імёны: *Вубядзе, Кіслы мох, Муліцішча, Свішчук, Сухі лясок.*

Гэтыя помнікі нашай мовы і гісторыі трэба шанаваць і захоўваць.

**Аляксандр МАЗУР.**

---

*Здароўе*

***Тацяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

## Грып можа вярнуцца

Не прайшло і палавіны зімы, а шмат хто двойчы хварэў на грып або на вострае рэспіратарнае вірýснае захворванне. Прычына адна — слабая імунная сістэма. Што ж спрыяе імунадэфіцыту?

Ці ведаеце, што вірусным інфекцыям спрыяе наша ежа. Людзі «еўрапейскага тыпу харчавання», хто спажывае высокакаларыйныя, багатыя на вугляводы стравы, тарты, піражныя, шакалад, сала, кулінарны тлушч, какаву, каву, павінны ведаць, што згаданыя харчы ўтрымваюць вялікую колькасць аргініну — амінакіслаты, якая можа выклікаць актывацыю вірусаў, што знаходзяцца ў чалавечым арганізме. Аднак, калі ў ежы пераважае іншая амінакіслата — лізін, то пачынаецца змаганне з вірусамі. Лізінам багатыя бялкі расліннага (боб, гарох, соя, арэхі, сланечнікавыя семкі) і жывёльнага паходжання.

Вельмі карысныя для падтрымання нармальнага стану арганізма біяфлаваноіды, якія ўтрымваюцца ў цыбулі, яблыках, цытрусавых, у ягадах глогу, хурме. Біяфлаваноіды валодаюць супрацьзапаленчымі, супрацьалергічнымі і антыаксідантнымі ўласцівасцямі. Ёсць яны і ў аптэчным леку — кверцэціне.

Памятайце, што цыбуля — універсальны прыродны лек, менавіта ў ёй ды ў часнаку ёсць шмат антыбіётыкаў — фітанцыдаў. Яны бароняць наш арганізм ад шмат якіх хваробаў, у тым ліку анкалагічных і грыпу. Але трэба памятаць, што лішак фітанцыдаў не патрэбны: дастаткова 2—3 зубкі часнаку на суткі.

Не ўсе ведаюць, што цукар «вымывае» кальц з касцей, мышцаў і сасудаў, робіць крохкімі, рыхлымі, што спрыяе пранікненню і распаўсюджванню інфекцыі. Але гэтаму можна запабегчы, спажываючы буракі, боб, гарох, сою.

А што да бульбы, то не настолькі яна карысная, каб есці яе тры разы на дзень. Вараная ці параная бульба спрыяе браджэнню ў страўніку, а вітаміны ды мікраэлементы, якіх багата ў сырой бульбе, нішчацца пры тэрмічнай апрацоўцы.

Паўсядзённыя клопаты пра дом, сям'ю, фінансавыя праблемы вядуць да стрэсавага стану. На жаль, праз стрэс не толькі трацяцца запас энергіі, але і, як ужо згадвалася раней, разладжваюцца функцыі арганізма. Прыкладам, наднырачнікі, якія рэгулююць сакрэцыю гармонаў, першымі падпадаюць пад адмоўнае ўздзеянне стрэса. Памятайце, што адпаведнымі антыстрэсавымі ўласцівасцямі валодаюць вітаміны групы B, якія ў спалучэнні з мікраэлементамі стымулююць дзейнасць кары наднырачнікаў.

Дзеля паляпшэння адаптацыі арганізма да знешняга ўздзеяння, а таксама і папярэджання грыпу спажывайце так званыя адаптагены. Так называюць лекавыя прэпараты, атрыманыя з жэньшэню, элеўтэракоку, астрагала, сафоры, пчалінага матачкавага малачка. Майце на ўвазе, што мёд, які спажываюць пры вірусных захворваннях, можна раіць не ўсім. Трэба ведаць, што вельмі ўражлівыя на яго алергікі ды хворыя, хто мае паніжаную кіслотнасць страўнікавага соку.

Падчас эпідэміі грыпу асабліва ўважнымі трэба быць людзям, хто мучыцца ад розных парушэнняў органаў страваванні. Хранічныя хваробы горла (фарынгіты, ларынгіты, танзіліты) і дыхальных шляхоў (бранхіты), а таксама курэнне аслабляюць устойлівасць тканак гэтых органаў. Тое ж можна сказаць і пра цукровы дыябет, анкалагічныя хваробы, паніжэнні функцыі шчытападобнай залозы. Усе яны значна аслабляюць арганізм. А таму трэба не спадзявацца, што грып вас абміне, але загадзя зрабіць усё, каб яго папярэдзіць.

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## «Мир створити...»

Знешнепалітычныя і эканамічныя стасункі Полацкага і Віцебскага княстваў адлюстраваны ў Грамаце князя Гердзеня* 1264 года, копія якой, зробленая ў той жа час, захавалася ў Рыжскім гарадскім архіве. Гэты распарадчы дакумент змяшчае міждзяржаўнае пагадненне аб тэрыторыях і гандлёвых зносінах паміж імі.

Стыль граматы адпавядае афіцыйнай вуснай прамове, што яскрава праяўляецца ўжо ва ўступе, дзе эмацыянальна і строга, праз маральна-філасофскія высновы, **падкрэслена прызнае стаўленне князя да ўсіх асобаў, каму трапіць грамата; выказана ўпэўненасць у яе дзяржаўнай значнасці і культурна-гістарычнай каштоўнасці**. Сцісла, у форме канстатацыі, выкладзена сутнасць узнікнення дакумента, названы суб'екты пагаднення: беларускі бок названы па прыналежнасці да княстваў — палачане і віцьбічы, а другі — пададзены найменнямі пасадаў з адзнакай дзяржаўнай прыналежнасці: ***«Князь Герденъ кланяеться всемь темь, кто видить сую*** [гэту] ***грамоту. Тие люди, што ныне живи суть*** [жывыя], ***а темь, кто на после приидуть, тѣмь вѣдомо буди*** [вядома будзе], ***как мир есмы створили промежи*** [паміж] ***местеря*** [магістрам ордэна] ***и с ратьманы*** [ратманамі (радцамі магістрату)] ***Рижьскыми и с Полочаны и Видьбляны».***

Наступная кампазіцыйная частка, рэзалюцыйная, па сучаснай класіфікацыі з'яўляецца дакументам агульнай формы, бо ў дамове не канкрэтызаваны прыватныя выпадкі ўзаемадачыненняў.

Змест граматы падпарадкаваны падзейна-сітуацыйнай логіцы і ўвасоблены ў трох узаемазвязаных, узаемадапаўняльных выказваннях (тоесных сучасным заканадаўчым артыкулам). Іх фармальнай мяжой выступае двойчы ўжыты выраз ***верху того*** [да таго ж], які мае далучальнае значэнне.

У першым з выказванняў прыведзены юрыдычныя падставы правамоцы земляў: ***«...отступити, што есть Лотыгольская земля; как не въступати ся на тую землю, што князь Констянтин** дал местерю с своею братьею, с своею грамотою и с печатью, ...боле на ту землю не поискывати*** [не дамагацца]***».***

Другое выказванне мае мэтай спыніць законам рабаванне Полацкага княства: ***«Верху того, про ту пакость*** [рабаўніцтва], ***што ся в розмирьи*** [беззаконні] ***створило*** [утварылася] ***...отступити, што Руская земля словеть*** [завецца] ***Полочъкая; от тое земли местерю и братьи его отступити с всею правдою».***

У трэцім выказванні ў агульным плане пералічаны найбольш важныя правы і абавязкі суб'ектаў дамовы з уласцівай юрыдычна-прававому выкладу дакладнасцю і дэталёвасцю: ***«Верху того Немечькому гостю*** [купцу] ***в Полочьскую волно*** [вольна] ***ехати и торговати, купити и продати, тако же Полочаном і Видиблянину волно гостити*** [ездзіць гандляваць] ***в Ригу и на Готьскы берег. А где будеть кто кому виноват, в том городе правити*** [судзіць, разглядаць справу], ***где тот человѣк живеть, инде*** [на іншым месцы] ***суд ему не искати; в которой волости человѣк извиниться*** [правініцца], ***ту*** [тут] ***ему правду дати*** [судзіць]...»

Як доказ дзейнасці дамовы ў канцы граматы адзначана выкананне пагаднення. Як і ўся папярэдняя, гэтая інфармацыя юрыдычнага зместу аформлена праз слоўны і сінтаксічны паўтор (пры гэтым заменены месцамі назвы суб'ектаў і аб'ектаў дамовы): «...***што словеть Лотыгольская земля, от того ся отступили с всею правдою; местерь такоже братья его отступили, што словеть Полочьская земля со всею правдою».*** Адпаведна афіцыйным стандартам, паведамляецца і час напісання граматы па сучаснаму летазлічэнню: ***«Сию грамоту тогды написана в Ризе, коли Бог был 1000 лѣт і 200 і 60 лѣт и 4 лѣт по рожен*** [нараджэнню] ***божим дьни за три дьни».***

У гэтым дакуменце выкарыстаны вядомыя з граматы 1229 года юрыдычныя тэрміны ***(правда, мир, гость)*** і тэрміналагічныя словазлучэнні — ***мир створити*** (у грамаце 1229 — ***мир утвердити), правду дати.*** Стылістычна адметным з'яўляецца слова ***розмирье,*** невядомае цяпер, аднак надзвычай суладнае беларускай моўнай сістэме, якая ўключае аднакарэнныя яму словы і іх формы *мір, мірыцца, змірыцца, прымірэнне* і іншыя. **Размір'е** — гарманічнае паводле формы і выразнае паводле зместу. Тоесную марфемную будову маюць, напрыклад, добра вядомыя лексемы *разводдзе, разладдзе, раздарожжа.* Іх значэнні, а таксама кантэкст граматы дапамагаюць зразумець, што слова ***размирье*** абазначае 'адсутнасць міру; бязладдзе; беззаконне; сутыкненне інтарэсаў і законаў розных дзяржаў; няўзгодненасць палітычна-эканамічнага жыцця на дзяржаўным памежжы'. Такая зместавая разнастайнасць спрыяе багаццю інтэрпрэтацыі слова, сведчыць пра яго вялікія стылістычныя магчымасці.

Словы з празрыстым значэннем, якое ўвасоблена ў форму, гарманічную моўнай сістэме, як згаданае **размір'е**, вызначаюцца вобразнасцю, эмацыянальнасцю, ацэначнасцю. Яны перадаюць логіку асваення і асэнсавання рэчаіснасці ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці яе з'яў, прадметаў і рэалій. Такія словы прафесар Ф.М.Янкоўскі назваў **гаваркімі**. Гаваркія, напрыклад, — *абмяжоўваць, верхавіна, здарожыцца, сугучча, дамова,* а таксама *ліпень, жнівень, студзень* ды іншыя. Іх яшчэ называюць слоўнымі залацінкамі. У такіх словах жыве непаўторны дух мовы. Яны ў сваім суладдзі ўзнімаюцца на вышыню мастацтва, складаюць трывалы падмурак красамоўства.

Грамата князя Гердзеня — яскравы прыклад таго, што ў афіцыйным выказванні прыкметай дасканаласці стылю, моўнага майстэрства паўстае трапяткое, жывое дыханне мовы, якая дапамагла «мір стварыці».

---

**«Гердзень (г.н. невяд. — п. 1267) князь нальшчанскі і полацкі. **Сын полацкага князя Давыда Расціславіча**. 22.12.1264 ад імя Полацка і Віцебска вызначыў правілы гандлю і заключыў мірны дагавор з Рыгай і Готландам, паводле якога адмаўляўся ад Латгаліі і зямель, аддадзеных Ордэну яго папярэднікам кн.Канстанцінам. У 1266—67 гг. на землі Гердзеня нападаў пскоўскі князь Доўмант (раней ён быў князем нальшчанскім — Рэд.), у барацьбе з якім Гердзень загінуў. Гісторыкі М.В.Без-Карніловіч і А.К.Кіркор лічылі Гердзеня бацькам вялікіх князёў ВКЛ Віценя і Гедыміна». (БелСЭ. Т.3, с.437.)*

***Канстанцін, князь віцебскі і полацкі (XIII ст.). У 1262 годзе ўдзельнічаў у паходзе на Юр'еў супраць Лівонскага ордэна. У Наўгародскім летапісе названы зяцем Аляксандра Неўскага. У час міжусобіцы збягаў у Ноўгарад, пасля, відаць, вярнуўся ў Полацак, дзе ў 70-80 гады XIII стагоддзя княжыў Канстанцін Бязрукі. (БелСЭ. Т.5, с. 385.)*

*Мікола Ермаловіч у «Старажытнай Беларусі» (с. 347) падае радкі з пэўнага літаратурнага твора: «Константин князь Полоцкий, нарицаемый Безрукий...» і згадвае, што «гэты твор з'яўляецца адзіным сведчаннем пра полацкага князя Канстанціна». Гады з 1271 па 1289 могуць прыблізна вызначаць час княжання Канстанціна. Сп. Ермаловіч не выключае, «што ў яго асобе мы маем таго ж самага Канстанціна, які княжыў у Полацку ўжо раней, перад Гердзенем».*

Культура мовы

# Ці «ісціна» ў віне?

Пытанне суіснавання словаў *ісціна* і ***праўда*** гучала яшчэ шмат стагоддзяў таму. Да прыкладу, у «Лексісе» Л.Зізанія старaславянскае *истина* перакладаецца на старабеларускую мову словам ***правда;*** у «Сіноніме Славенароскай» тое ж ***правда*** тлумачыцца старaславянскім *истина.* Гэтага дастаткова, каб пабачыць, што слова *истина* з паходжання з'яўляецца старaславянскім, у адрозненне ад свайго пазнейшага ўсходнеславянскага адпаведніка ***правда.*** Таксама можна заўважыць і выразнае размежаванне гэтых словаў паводле моўнай прыкметы.

На пачатку нашага стагоддзя *ісціна* ўжываецца пераважна як логіка-матэматычны тэрмін (М.Байкоў, С.Некрашэвіч. «Беларуска-расійскі слоўнік»). Гэты ж слоўнік, аднак, перакладае беларускае ***праўда*** наступнаю параю: *правда, истина.* Беларускія адпаведнікі расійскаму *истина* ў слоўніку В.Ластоўскага наступныя: **праўда, істасць, істаўка, ісціца.**

Беларускае ж слова ***праўда*** на той час мела і зараз мае шырэйшы семантычны аб'ём, які сумяшчае ў сабе значэнні расійскіх словаў *истина, правда.* Пранікненне тэрміну *ісціна* замест ***праўды*** ў слоўнікі нашай мовы (М.Байкоў, С.Некрашэвіч; таксама і «Руска-беларускі слоўнік», 1994 г.), на мой погляд, тлумачыцца ўплывам расійскай мовы як носьбіта царкоўнаславянскае лексічнае традыцыі на фармаванне беларускай тэрміналогіі. Штучнасць гэтага слова ў беларускай лексіцы даволі выразна бачная на прыкладзе артыкула з РБС, 1994 г.: рас. *истина* — бел. ***ісціна;*** рас. *истинно* — бел. ***сапраўдна;*** рас. *истинность* — бел. ***праўдзівасць.*** Паводле словаўтваральных законаў нашай мовы, вытворныя ад *ісціна* павінны мець у сваім складзе корань «**ісцін-**», але, насамрэч, іхняя словаўтваральная база — аснова ***праўд-.***

Аднак, «прапіска» ў слоўніку зусім не азначае актыўнага існавання гэтай лексічнай адзінкі. Падобна на тое, што яна ўвогуле знікае, найперш праз сваю чужыню і, як вынік яе, адсутнасць аднакаранёвых словаў. Здаецца, адзінае, на што магла б разлічваць *ісціна,* — гэта выкарыстанне яе ці ў лексічным пласце высокага стылю, ці ў тэрміналогіі дакладных навук. Але ні там, ні там яно, відавочна, не прыжываецца. Гэтак усе беларускія пераклады Новага Запавету ў параўнанні з расійскімі радкамі: *«...Бог есть дух: и поклоняющиеся Ему должны поклоняться в духе и истине»* (Евангелле паводле Яна, 4 і 24) маюць наступныя: *«...Бог ёсць дух, і тыя, што пакланяюцца Яму, павінны пакланяцца ў духу і праўдзе»* (пераклады В.Сёмухі, а таксама Я.Пятроўскага). (Тое ж можна сказаць і пра ўкраінскія пераклады Новага Запавету). І, нарэшце, Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ (Мн., 1993) развязвае праблему з існаваннем слова *ісціна* ў нацыянальнай тэрміналогіі, перакладаючы *истина* як ***праўда,*** *истинный* як ***праўдзівы, сапраўдны.***

Нездарма ж у народзе кажуць: *«Праўда ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне», «Праўда наверх выйдзе».*

**Антось КУЗЬМІЧ.**

Жывое слова

# Летуценка

Да сотай гадавіны з дня народзін Ванды Лявіцкай рыхтавалася шчырая, цёплая тэленавела. Назвалі яе мы «Летуценніца з Карпілаўкі». Назва як назва. Крылатая, выверaная, дакладная. Мусіць, пра апантанага якойсь мрояй, ідэяй чалавека больш дакладна і не скажаш. І ўсё ж мне штось муліла. Найперш, хацелася неяк пазбегнуць, унікнуць падоўжанага (падвоенага) *«нн» — летуценніца.* Нават закралася жаданне выкінуць адно «н». Але ў нашых слоўніках яно падвоенае.

Такое жаданне ў мяне паўстае часта. Прыкладам, вельмі пакутую ад груваcткага, на маю думку, гучання слова словаў *нараджэнне, папярэджанне, адраджэнне.* Мабыць, кожны з нас адчувае, як цяжка вымаўляць іх другую частку — «джэнне». Але, хвала Богу, мы маем слова «народзіны». Яно, як мне падаецца, больш натуральнае для нашай мовы.

Але вернемся да «летуценніцы». Мне муліла гэтае падвоенае -нн-. Не скажу, каб вельмі ўжо, а так, трошкі. Іншы гэта нават назваў бы густаўшчынай. Ну, але як бы яно там ні было, а муліла.

Выказаў я гэтае сваё «муленне» творчай брыгадзе, якая рыхтавала нарыс. А асістэнтка рэжысёра Валянціна Палонская, родам яна з Капыльшчыны, дый кажа: «А давайце напішам «Летуценка!» Сказала, як штось гатовае, нязмушанае, для яе звыклае. І напраўду, ці можа яшчэ быць што больш натуральнае для нашай мовы, чым форма слова «летуценка».

З асалодай, насмакаваўшыся «летуценкай», я, паміж іншым, праз нейкі час пацікавіўся ў Валянціны, адкуль да яе прыйшло гэтае слова: у нашых нарматыўных слоўніках яго няма.

— І сама не ведаю, — адказала яна на гэта. — Мне здаецца, я ведала гэтае слова заўсёды. Мне так здаецца...

Ну, а калі так, калі няма ніякіх пярэчанняў, калі слова «летуценка» кладзецца вам на душу і сэрца, то прымайце яго, вітайце, спажывайце на карысць нашай роднай мове.

Цяпер будзем мець — для мужчын — *летуценнік* і *летуценец;* для нашых мілых жанчын — *летуценніца і летуценка.* Выбірайналюбка! Такія бязмежныя магчымасці нашай мовы, такая яна рухомая, жывая, паддатлівая.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

Жыццё Таварыства

# Святое

*(Заканчэнне. Пачатак на с.2.)*

— Усе стараліся, мне цяжка каго і вылучыць, але не магу не ўспомніць настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Ірыну Міргародаву. З пяцікласнікамі яна ўдала правяла інсцэніроўку беларускіх народных казак і даволі захапляльную лінгвістычную гульню накшталт вядомага тэлевізійнага «Поля цудаў». У ходзе яе ставіліся пытанні на веданне гісторыі паходжання, сэнсавага «напаўнення» беларускіх слоў.

Прыемнай навіной для ўсіх стала выстава беларускамоўных насценгазет, прадстаўленых вучнямі 8—11 класаў. Адны назвы чаго вартыя: «Не пакідайце мовы нашай беларускай», «Слова — не блудзі!», «Ад прадзедаў спакон вякоў» і іншыя.

**— Што вас асабіста, як настаўніцу і кіраўніка суполкі ТБМ, найбольш уразіла, парадавала ў ходзе месячніка?**

— Вельмі спадабалася выстава дзіцячых малюнкаў «Зямля пад белымі крыламі» — па назве адной з лепшых кніг Уладзіміра Караткевіча. Бадай на кожным другім малюнку, а іх сабралася мо сотня, можна было бачыць бусла — любімую птушку паэта, ды і кожнага шчырага беларуса.

І, вядома ж, агульнашкольная вечарына па заканчэнні месячніка, прысвечаная творчасці Уладзіміра Караткевіча. Вялі яе вучні адзінаццатага класа Дзіяна Тышкевіч і Ваня Холадаў. Шмат новага пра гэтага пісьменніка і гісторыка даведаліся ўдзельнікі вечарыны ў часе сцэнічнай дзеі «Сустрэча з Караткевічам», у ролі якога выступаў той жа Ваня Холадаў, здзівіўшы і парадаваўшы ўсіх добрым веданнем жыцця і творчасці пісьменніка. Дарэчы, ён перачытаў усе яго апублікаваныя творы.

На заключэнне фальклорны ансамбль сямікласнікаў выканаў песні, якія любіў Караткевіч.

**— Ніна Серафімаўна, не сакрэт, што ў пераважнай большасці сем'яў бацькі размаўляюць дома і на рабоце альбо на расійскай мове, альбо на «трасянцы». Як вы лічыце, праведзены месячнік акажа нейкі ўплыў на іх моўны «баланс»?**

— Лічу, што нейкія «светлячкі» засталіся ў сем'ях, бо пасля месячніка мне на бацькоўскіх сходах маці вучняў расказвалі, што дзеці імкнуцца размаўляць з імі на беларускай мове, нават папраўляюць бацькоў, калі тыя збіваюцца на «трасянку». Гэта ўжо пэўная запеўка на будучае. Вядома, не блізкае, таму як спатрэбіцца не адзін дзесятак гадоў, каб наша мова заняла свой пачэсны пасад. Хочацца верыць, насуперак памкненням прыхільнікаў русіфікацыі, што мы не станем нацыяй самазабойцаў.

**Распытваў Міхась ТЫЧЫНА,**
**член Слуцкай гарадской рады**
**Таварыства беларускай мовы**
**імя Ф.Скарыны.**

*Беларускае Адраджэнне*

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
***кандыдат філалагічных навук***

# Пракаветная вобразнасць старабеларускай мовы

Помнікі айчыннай кніжнасці — гэта сапраўды чароўныя скарбонкі старабеларускага слова — такога багацця перыфразавай сінанімікі, такой паўнаты лексічнага фонду, такога творчага валодання мовай пазней не давядзецца ўбачыць — з-за неспрыяльнага лёсу нашага прыгожага пісьменства.

Экспрэсію, афарыстычнасць і лаканізм старажытных помнікаў нельга зразумець без пранікнення ў свет тагачаснай мовы, пра асаблівы вобразна-канкрэтны стан якой мы ўжо пачалі гаворку ў сувязі з адметнасцю *ўнутранай формы* старога слова ў Амасціконе 1282 года. Падобнае ў сучаснай мове здаецца нам амаль недасягальным, нават штучнымі прыёмамі, нягледзячы на ўдасканаленне сінтаксічнай сістэмы, развіццё, бо адначасова адбывалася спрашчэнне граматыка-марфалагічных формаў, шматфункцыянальнае ўзбагачэнне *слоўнага запасу*. Нездарма Гегель выказаў меркаванне, што мова багацейшая ў неразвітым, першабытным стане народаў і бяднее з цывілізацыяй і стварэннем граматыкі.

Вядомы нямецкі лінгвіст і збіральнік фальклору Якаб Грым так рэканструяваў ранні стан мовы:

«Праявы мовы простыя, натуральныя, поўныя жыцця, падобныя да хуткага звароту крыві ў маладым целе... Словы тоўпяцца густым натоўпам, як сцябліны травы. Усе паняцці ўзнікаюць з пачуццёвага празрыстага сузірання, якое ўжо само было думкаю і ад якога ва ўсе бакі распаўсюджваліся элементарныя новыя думкі. Суадносіны слоў і ўяўленняў наіўныя і свежыя, але выказваюцца без прыхарошвання наступнымі, яшчэ не далучанымі словамі. З кожным сваім крокам мова разгортвае сваё багацце і здольнасці, але ў цэлым яна робіць ураджанне пазбаўленай меры і ўпарадкаванасці, «бо святло і цень не маглі ў ёй як след размеркавацца».

Асноўнае, што падкрэсліваюць Гегель, Грым ды іншыя даследнікі, — гэта вобразны стан старажытнай мовы, адметнасць яе граматыка-сінтаксічных сувязяў, што таксама захоўвалі ўнутраную форму слоў, з якіх развіваліся службовыя часціны.

Стылістыка, надзяляючы, можна сказаць, асабістым, «вобразным характарам» кожную часціну мовы, акрамя таго, схільна выдзяляць у асобны пласт экспрэсіўна пазначальную лексіку. Вучоныя ацанілі вельмі высокую вобразную інфарматыўнасць экспрэсіўных слоў, што выдзяляюцца сярод лексікі нейтральнай, вобразнасцёртай; менавіта праз іх трымаецца, адчуваецца навізна тэксту.

Даследаванні лексіколагаў паказваюць, што ў вобразнай сістэме мовы найбольшая роля належыць не стылістычна (экспрэсіўна) адзначаным словам, а ўласна функцыянальна-стылёвай канатацыі выкарыстанню *«функцыянальна афарбаванай»* лексікі.

Да ліку *канатантаў* адносяцца словы т.зв. «эмацыянальнай лексікі», зместам якіх з'яўляецца абазначэнне эмоцый, пачуццяў: *товаристве добром, кохает, веселит (Град Божий), ласку имають;* прыкмет і якасцей: *драгых (скарбов), добрых обычаех, жаднаго (возгляду).*

Але «эмацыянальная лексіка», на думку Шмялёва Д.М., не ўласна семантычная з'ява, бо пачуцці, якасці ўласцівы не самім прадметам, дзеянням, а паняццям, што склаліся аб іх. Гэта, па сутнасці, паводле В.Гумбальта, агульнамоўная вобразнасць, унутраная форма мовы. На лексіка-фанетычным узроўні вобразнасць, як адзначалася, выяўляе сябе праз унутраную форму слова.

Старажытная мова абавязана сваім экспрэсіўным станам менавіта ўнутранай форме, гэтаму сапраўднаму патаемнаму вобразу, што лучыць гістарычнае існаванне слова з яго вобразным першакоранем — прыкметаю, якая легла ў аснову намінацыі лексічнай адзінкі. Увесь сакрэт старажытнага слова ў тым, што ў ім *унутраная форма*-прыкмета яшчэ *адкрытая*. У сучасным жа стане ў выніку бясконцых змен у знешняй абалонцы ўнутраны першакаранёвы вобраз слова аказваецца прыцемненым і ў большасці непазнавальным.

Асаблівая вага ў нашай старой мове слоў з адметнай унутранай формай неаднойчы адзначалася даследнікамі. Так, У.В.Анічэнка пісаў пра згаданую рэч, што граматычныя рысы беларускай мовы на фоне кніжнаславянскай асновы ўдала спалучаюцца з наяўнасцю... шматлікіх слоў з адметнай унутранай формай і семантычнай структурай, якія незалежна ад свайго паходжання і ступені ўжывання сталі агульнавядомымі ў беларускай мове новага часу, а на астатняй усходнеславянскай тэрыторыі не пусцілі глыбокіх каранёў, аказаліся, па сутнасці, забытымі або бытуюць на правах устарэлых ці вузкамясцовых лексічных адзінак.

У аснове сваёй старажытнае слова больш канкрэтнае па значэнні менавіта таму, што яго ўнутраная форма менш сцёртая і матывіроўка ляжыць яшчэ на паверхні. Вось адна з разгадак вобразнасці старажытных тэкстаў, бо канкрэтызацыя ў элементарным сэнсе і ёсць вобразнасць, праясненне ўнутранага вобраза-прыкметы, што пакладзена ў найменне слова.

*Меркаванні*

# Вастрыня моўнага пытання

Пра беларускую мову зараз спрачаюцца шмат. Адны кажуць, што яе трэба мяняць, вяртаючы страчаныя падчас барацьбы з «нацдэмаўшчынай» словы. Другія — што хай усё застаецца, як ёсць. Дык што ж нам цяпер рабіць?

Аднаго разу мне давялося пачуць меркаванне, што неўнармаваная беларуская мова, якая часам сустракаецца ў друку, ёсць «асфальтная мова». Але чаму падабраны менавіта такі выраз? Відаць, маецца на ўвазе, што састарэлая мова, як састарэлы асфальт. Але хто «асфальтуе» нашу мову? Часта змены ў ёй рабіліся гвалтам. Цяпер тое-сёе ўдалося вярнуць у слоўнік. Дык што ж атрымваецца — нейкае слова, трапіўшы ў пасіўны запас, можа зноў вярнуцца ў актыўны? Навошта ж тады гаварыць пра натуральнае развіццё мовы ў працэсе народнага маўлення? Дый наогул, сказаўшы: «гэта зрабіў народ», можна ўнармаваць «трасянку». Але ж то шлях да знікнення мовы, бо ў трасянкі мала знойдзецца прыхільнікаў. Альбо мова падобным чынам будзе развівацца, альбо развіццё мецьме ў сабе сэнс вымушанага ўдасканалення пры захаванні й вяртанні моўнага скарбу, створанага продкамі. Але трэба помніць, што такое вяртанне не павінна адбывацца без патрэбы. Навошта, да прыкладу, ужываць назоўнік **краёвідзь** (В.Ластоўскі. «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік». Коўна, 1924. С.453), калі ў такім значэнні ўжо ўжываецца **краявід**. Але, думаю, варта ўжываць: **коўцік** (кадык), **дыхніца** (гартань), **зморазь** (марожанае), **засня** (абажур), **рашатні** (жалюзі)... Акрамя таго, трэба ўлічваць і выкарыстанне лексемаў майстрамі роднага слова.

Прыкладам ашчаднага стаўлення да роднай мовы могуць быць украінцы. Яны захавалі ў ёй такія словы, як **насамперед** (бел. насамперад), **насправді** (бел. насамрэч), **підступництво** (бел. падступства). Вядома ж, згаданыя беларускія адпаведнікі не ўнесеныя ў сучасныя слоўнікі. І ўжываецца: **перш за ўсё, на самай справе, каварства.** Але наконт апошняй лексемы хачу зазначыць, што ўжо існуе выданне: *Шылер Ф. Вершы і балады. Драмы. Мн., 1993,* дзе надрукавана драма «Падступства і каханне» ў перакладзе М.Ермалаева. Значыць, назоўнік **падступства** павінен быць у слоўніку. І тут паўстае яшчэ адна праблема. Калі чытач возьме чарговае папраўленае й дапоўненае выданне расійска-беларускага слоўніка — як ён ведацьме пра тое, якія змены адбыліся? Няўжо ён мусіць перачытваць усё ад вокладкі да вокладкі? Я б прапанаваў выпусціць выданне: «Папраўкі ў нарматыве беларускай мовы». Тады будзе значна лягчэй для чытача.

Увогуле, думаю, мала тых, каго ўсё задавальняе ў нашай моўнай нарматыўнасці. Як, да прыкладу, можна мірыцца з напісаннем грузінскіх прозвішчаў: **Брэгвадзе, Шэварднадзе, Чыгладзе.** Атрымваецца вымаўленне гука [д͡з']. А што, калі ў нейкім замежным прозвішчы сапраўды трэба будзе ў падобным выпадку прамовіць у канцы [д͡з'] перад [э]? Як тады адрозніць на пісьме два варыянты прачытання? Вядома ж, грузінскія прозвішчы трэба пісаць: **Брэгвадзэ, Шэварднадзэ, Чыгладзэ.** Праўда, гэта ўжо пытанне арфаграфіі. І калі ў нашым грамадстве ўзнікла пытанне рэформы правапісу, дык мушу прывесці адну цытату: «...калі між арфаграфічнай нормай і патрэбамі грамадска-моўнай практыкі ўзнік канфлікт, то, чым даўжэй пэўныя нормы захоўваюцца ў недатыкальнасці, тым вастрэй гэты канфлікт і тым цяжэй ён вырашаецца» *(Мечковская Н.Б. и др. Общее языкознание: Сущность и история языка. Мн., 1993. С.114).* Значыць, пакуль не позна — трэба вырашаць: вяртаць ці не вяртаць.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

***Беларускае замежжа***

# «Уздым» — гэта Адраджэнне

*(Заканчэнне. Пачатак на с.4.)*

многіх прадпрымальнікаў Рыгі. Там сярод іх ёсць свядомыя беларусы. З асяродку рабочых апошнім часам да нас таксама пачалі запісвацца. Можа быць, штуршком да гэтага паслужыла тая акцыя, якую мы рабілі каля кансуляту (пікет па збору подпісаў), ці зразумелі, што беларускае таварыства мае нейкі голас, можа ўплываць на падзеі. Але расійскамоўнага асяродку ў Даўгаўпілсе ўсё-такі больш.

**— Латышы ўспрымаюць беларусаў, як частку расійскамоўнага насельніцтва?**

— Так, вядома... На жаль, у побыце нам даводзіцца больш карыстацца расійскай мовай... Але нас, як беларусаў, латышы паважаюць, таму прыклад — стварэнне таварыства дружбы «Латвія — Беларусь». Гэта сустрэчнае таварыства таварыству «Беларусь — Латвія», якое тут, у Менску, узначальвае спадар Сяргей Панізьнік.

**— Сёння на Беларусі нацыянальная выдавецкая дзейнасць перажывае крызіс. Паліцы кнігарняў заваленыя падробкамі пад замежныя «баевікі» і секс-раманы... Што купляюць людзі ў кнігарнях Латвіі, і ці можаш ты там набыць літаратуру беларускіх аўтараў?**

— Сітуацыя падобная і ў нас... «Бульварнай» літаратуры хапае. Але выходзіць і шмат кніжак латышскіх пісьменнікаў, выдадзеных на досыць добрым узроўні. Сёе-тое з беларускай літаратуры ў перакладзе на расійскую мову можна набыць. Беларускамоўных выданняў практычна няма.

**— Ты — паэт. І цяпер апынуўся ў такой сітуацыі, што і там чужы, і для беларускіх выдавецтваў — не зусім родны...**

— Сапраўды, з выданнем у мяне атрымалася складана... Ад самага першага калектыўнага зборніка «Сцяжынка», у 1983 годзе, нічога ў мяне не выдавалася, і не па маёй віне. Апошнім часам пазначыўся нейкі зрух — у Латвіі выйшаў зборнік маіх дзіцячых вершаў у перакладзе на расійскую мову. І на Беларусі выдавецтва «Тэхналогія» паабяцала выдаць мой зборнік. Дзейнасць гэтага выдавецтва напраўленая на выданне аўтараў беларускай дыяспары... Маю спадзяванне і на «Бібліятэчку «Маладосці».

**— Выходзіць, у сённяшніх варунках тое, што ты — прадстаўнік дыяспары, нейкім чынам табе дапамагае?**

— Гэты «шанец» я ўспрымаю, як кампенсацыю за тыя доўгія гады, калі мясцовыя літаратары мелі магчымасць выдавацца ў беларускіх дзяржаўных выдавецтвах, а мае рукапісы ляжалі без руху...

**— Ты нарадзіўся і вырас на Беларусі, у Латвіі жывеш менш дзесятка гадоў. Як пачуваешся — «прырос» ты там? Застанешся ў Даўгаўпілсе назаўсёды?**

— Так, напэўна... Карэннямі прырос да тае зямлі праз сям'ю, праз майго сына, які нарадзіўся ад «карэннай жыхаркі»... Я — сем'янін, і таксама «прырастаю».

**— Твой сын, якому сем гадоў, ведае беларускую мову?**

— Пакуль кепска ведае. Уплывае расійскамоўнае асяроддзе. Сын мой разумее беларускую мову, калі я з ім размаўляю, чытаю вершы... Спадзяюся, што некалі будзе гаварыць на мове свайго бацькі...

**— Мы, дарэчы, плануем распачаць у нашай рубрыцы «Кола сям'і» шэраг публікацый на тэму выхавання дзяцей ва ўмовах білінгвізму, выхавання ў дзецях нацыянальнай свядомасці... Сем'і, падобныя тваёй, дзе толькі адзін з бацькоў карыстаецца беларускай мовай, тыповыя і на Беларусі. Ці можа скласціся, што твая мова ніколі не зробіцца роднай мовай твайго сына і Беларусь ён будзе ўспрымаць проста як суседнюю дзяржаву?**

— Загадваць наперад цяжка. Як свядомы беларус, магу толькі выказаць пажаданне, каб мая мова стала роднай для майго сына... А наколькі гэта рэальна... Сёння на Беларусі ідуць працэсы, неспрыяльныя для беларускай мовы, і нам, дыяспары, яшчэ цяжэй несці сваю беларускасць, нават да сваіх дзяцей...

**— Якія планы ў аб'яднанні «Уздым»?**

— Акрамя звароту па пытанні візавага рэжыму, мы прывезлі ў Менск шэраг іншых дакументаў — у Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры. Спадзяёмся, што нашы дзеці будуць прынятыя на летні адпачынак на Беларусь; атрымана абяцанне ўзяць на курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў беларускай нядзельнай школы; маем просьбу дапамагчы нам з кнігамі для бібліятэчкі. Хацелася б, каб Міністэрства культуры паспрыяла ў набыцці касцюмаў для нашага фальклорнага ансамбля, які выступае на даволі добрым узроўні, але з-за адсутнасці касцюмаў не можа «выйсці на людзі»... Аднойчы з такой мэтай нам давялося пазычыць касцюмы ў суседзяў з Браслава...

**— Ці чытаеце вы ў Даўгаўпілсе газету «Наша слова»?**

— «Наша слова» чытаю, толькі калі наведваюся ў Менск, бо падпісацца на беларускую перыёдыку няма магчымасці: у латвійскім каталогу няма беларускіх выданняў. Аднак спадзяюся, што вырашэнню гэтага пытання можа паспрыяць таварыства «Латвія — Беларусь».

**— Як жыве сёння Латвія ў параўнанні з Беларуссю?**

— Напэўна, каб параўнаць, мне трэба было б цяпер нейкі час пажыць на Беларусі... У эканамічным, сацыяльным плане жыццё ў нашых краінах недзе на аднолькавым узроўні. Зарплаты ў нас трохі большыя, затое большыя кватрплаты.. Цэны вышэйшыя... Вялікі працэнт беспрацоўных. Прычым у Даўгаўпілсе — у чатыры разы вышэйшы, чым у Рызе. Сам я працую ў пачатковай рускай школе намеснікам дырэктара па гаспадарчай частцы. Школа знаходзіцца ў раёне, дзе пражывае шмат беларусаў. Верыцца, што беларуская справа ў Латвіі мае будучыню.

**— Дзякуй за гутарку.**

***Станіслаў ВАЛОДЗЬКА***

Адчуваю, Айчына,
Твой журботны пагляд:
Каб не сталі злачынна
Мы адходзіць назад.

Адчуваю, Айчына,
Твой нялёгкі ўздых:
І калі ўжо мы здзейснім
Наш сапраўдны ўздым.

Адчуваю, Айчына,
Біятокі твае,
Нам людзьмі заставацца б
Колькі сілы стае,

Каб не сталі злачынна
Мы адходзіць назад,
Каб нарэшце, Айчына,
Твой раз'ясніць пагляд.

# Яна пісала для душы...

Пайшла з жыцця старэйшая беларуская паэтэса Яўгенія Эрдгардаўна Пфляўмбаўм. Імя гэтае стала вядома многім прыхільнікам беларускай літаратуры параўнаўча нядаўна — калі з'явіліся публікацыі паэтэсы ў друку, выйшлі яе два паэтычныя зборнікі — «Сувой жыцця» (1989) і «На захадзе сонца» (1992). А перад гэтым вершы Яўгеніі Пфляўмбаўм выйшлі ў калектыўным зборніку разам з вершамі З.Бандарынай і Н.Вімнеўскай у 1924 годзе. Тады паэтэсе было шаснаццаць год... Яе жыццё, творчая кар'ера пачыналіся ўдала — Яўгенія Пфляўмбаўм, дачка беларускай сялянкі і менскага чыгуначніка з нямецкіх перасяленцаў, скончыла літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ, прымала актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім жыцці, уваходзіла ў кіруючыя органы «Маладняка», БелАППа, з'яўлялася літсупрацоўнікам рэдакцыі газеты «Звязда». На пачатку 30-х гадоў паэтэса працавала бібліёграфам Кніжнай палаты пры Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У.І.Леніна... Гэта быў час, калі супраць творчай і навуковай беларускай інтэлігенцыі распачыналася хваля рэпрэсій. У 1933 годзе муж паэтэсы, вядомы беларускі паэт Максім Лужанін, быў бязвінна асуджаны на два гады. Яўгенія Пфляўмбаўм, не вагаючыся, паехала за мужам у Сібір, прыняўшы на сябе лёс жонкі ворага народа. Пасля была праца ў маскоўскім выдавецтве, Вялікая Айчынная вайна, вяртанне ў Менск, доўгія гады жыцця побач з вядомым паэтам.. . І ўсе гэтыя гады Яўгенія Пфляўмбаўм стварала сваю паэзію. Нават не для шуфляды пісьмовага стала — а выключна для ўласнае душы, як дзённік. Творчую спадчыну Яўгеніі Пфляўмбаўм складаюць сотні вершаў, раскіданых па нататніках, сшытках... Гэтага хопіць на шматтомны збор твораў. Паэзія Яўгеніі Пфляўмбаўм выключная гранічнай шчырасцю, багатым духоўным светам аўтаркі, адсутнасцю ўсялякай скіраванасці на літаратурную кан'юнктуру. На грамадзянскай паніхідзе, якая адбылася 16 студзеня ў Доме літаратара, было сказана шмат цёплых кранальных слоў пра светлую асобу нябожчыцы. Было сказана шмат і пра высокія якасці яе паэзіі, пра тое, што паэзія Яўгеніі Пфляўмбаўм толькі пачынае сваё жыццё ў беларускай літаратуры, жыццё, якое будзе доўжыцца, колькі будзе жыць наша літаратура.



### Пад прыцэлам

*Як ліст з вечнай кроны*
*Бяссмертнага дрэва,*
*Яшчэ адзін дзень мой*
*На дол абляцеў,*
*І змрок абазваўся знаёмым распевам*
*Той песні, што робіцца ўсё карацей.*

*Смяротны. Адзін на вачах у бяссмерця*
*Ідзе пад прыцэлам падлічаных дзён,*
*І кожны з іх трэба надзеяй падперці*
*І хоць бы найменшы з іх выспеліць плён.*

### Не ціхні, слова...

*Ізноў пішу. З якога краю,*
*Якім цыклонам наўздагон*
*Імкнеш ты, слова, і караеш*
*За свой жа спраўджаны прыгон?*

*Ды як бы мне былося раптам*
*Без шолаху тваіх пуцін,*
*Без пушчы згадак, рыфмы трапнай,*
*Без летуценных брыганцін?*

*Гучы, крычы, не ціхні, слова,*
*Як толькі ўсочыш думкі след,*
*Гучы прамовай і замовай,*
*Святая матчыная мова,*
*Зіхлівых гукаў самацвет!*

### Як сэрцу прагнецца дамоў...

*Я знаю ўсё — і развітанні,*
*І стрэчы пад навальны гром,*
*І боль няздзейсненых літанняў,*
*І лёд душы, самотны дом.*

*Я знаю даўкі смак вандровак,*
*Далёкі шлях у чужыню.*
*Я знаю гнёт улады слова,*
*Якога ў песні не змяню.*

*Я знаю прагу без патолі.*
*Я знаю жорсткасць і любоў,*
*І, можа, ведаю найболей,*
*Як сэрцу прагнецца дамоў.*

*А дом глухі, агеньчык згас —*
*Цябе матуля не чакае,*
*Але прыгорне мілы час,*
*Што ў памяці не памірае.*

## Зіма

Фотарэпартаж **Вільгельма ДУБІЛОВІЧА.**







## І смех і грэх

### Прэса-куламеса

**Год туды, год сюды**

«Сам он мечтает, окончив первый курс, вернуться домой, в свою деревню и предложить односельчанам асушить Гнилое болото. С наступлением летних каникул Степка приступил к осуществлению своей мечты».

*«Вечерний Минск».*

Размова пра Сцёпку Баруту з аповесці Я.Коласа «На прасторах жыцця». Пачытаем пісьменніка. Сцёпка год правучыўся і піша Аленцы: «Сцёпка паведамляў ёй, што гэтым летам ён не можа прыехаць у Заборцы... Летам ён паедзе ў далёкую акругу аж пад самае Палессе і там прабудзе аж да канца канікул». І далей: «З гэтымі думкамі і ехаў ён у свае Заборцы пасля двух гадоў разлукі з імі».

**Новая судовая інстанцыя**

«...генеральный секретарь Экономического суда СНГ».

*«Вечерний Минск».*

**На тое яны і местыя**

«Местые жители противились сделке...»

*«Вечерний Минск».*

**Скарачаць дык скарачаць!**

«ПКП «Аквалит» демонстрирует типовые схемы обвязок приборов поквартиного учета воды».

*«Вечерний Минск».*

**Колькі дзён было 1 кастрычніка?**

«1 кастрычніка 1995 г. «Народная воля» будзе выходзіць штодня».

*«Наша слова».*

Цікава, колькі нумароў газеты выйшла ў той дзень?

**Я.К.**

### У старых фаліянтах

**Цуд**

Адзін цудатворца цадык распавядаў сваім вучням пра цуды. Паміж іншых распавёў ён прыпавесць з Мідраса:

— Бедная матка пакінула ў лесе сваё дзіця, бо не мела грошай, каб пракарміць яго. Дзіцятка ляжала ў лесе і плакала. Плач немаўляці пачуў адзін дрывасек і ўзяў яго з сабой. Прытуліў яго да грудзей, каб суцішыць, але дзіця было галоднае і не супакойвалася, а дрывасек быў бедны і не меў грошай, каб купіць яму малака. Як вы думаеце, што зрабіў пан Бог? Пан Бог учыніў цуд, якога яшчэ не было ад стварэння свету. Спрадвечны зрабіў так, што ў дрывасека вырасла, як у кабеты, цыцка, поўная малака, каб з яе ён мог накарміць дзіця.

Калі рабін скончыў апавяданне, на тварах вучняў адбілася захапленне. Толькі ў аднаго была незадаволеная міна. І рабін звярнуўся да яго:

— Табе што, не спадабалася гэта гісторыя?

— Не зусім. І я не надта разумею, чаму пан Бог учыніў цуд, які аніяк не стасуецца з законамі прыроды. Пан Бог мог зрабіць іншы цуд, да прыкладу, скінуць з неба мех грошай. Дрывасек знайшоў бы іх, узяў да сябе матку, і ўсё было б у парадку. Дзіця было б дагледжанае, а законы прыроды былі б не парушаныя.

На што рабін з усмешкай адказаў:

— Дарагі мой, ты — чалавек думаючы. Скажы, калі пан Бог можа зрабіць такі цуд, каб у дрывасека вырасла жаночая цыцка, то навошта яму раскідваць грашыма?

**Лекарава парада**

На прыём да лекара прыйшоў габрэй.

— Доктар, мне трэба дапамога, — кажа. — Дай, пане, якой рады, каб я сам з сабою не размаўляў.

— Вам штокольвечы баліць? — запытаўся лекар.

— Не.

— Тады няма чаго непакоіцца, — сказаў лекар. — Бачыце, пане, мільёны людзей размаўляюць самі з сабой...

— Так, пане доктар, — перапыніў яго пацыент, — але пан не ведае, які я нудны.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 103

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3480 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 29.01.1995 г.
у 15 гадзін.